PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (2110) Год XLI Беласток 20 кастрычніка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Позняя восень на полі.* Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Віталь Луба

## Нельга ліквідаваць традыцыі

**Нурэц вылучаўся калісьці з ліку навакольных гмін двумя адметнасцямі: на яго тэрыторыі знаходзіліся ваенная часць і тры калгасы, якія выстаялі перыяд дэкалектывізацыі вёскі пасля 1956 г. і працягвалі будаваць сацыялістычную мадэль сельскай гаспадаркі. Сёння ў нязменным стане засталося толькі войска.**

Калі пад канец верасня наведаў я Нурэц-Станцыю, **Сяргей Путко**, які ва Управе гміны займаецца сельскагаспадарчымі справамі, рыхтаваўся да продажу зямлі з аўкцыёну. Агенцтва сельскагаспадарчай уласнасці, якое пераняло маёмасць колішняга Дзяржаўнага фонду зямлі, прапанавала на таргі 20 участкаў, але зацікаўленне імі было, мякка кажучы, памяркоўнае. Хадзілі чуткі, што інтарэс да аўкцыёну праявілі восем пакупнікоў, але неабходны залог уплацілі толькі пяць набытчыкаў.

— У распараджэнні Агенцтва, — кажа Сяргей Путко, — маюцца перш за ўсё ворныя грунты і аблесеныя ўчасткі. Ахвотных на зямлю сярод мясцовых сялян — мала. Найчасцей купляюць яе чужыя, з-па-за гміны. Напрыклад, жыхар Варшавы, які мае хату ў Конскіх Гарах, выкупляе зямлю навокал сваёй дачнай сядзібы.

### Рэквіем для калгасаў

Калектыўныя гаспадаркі ў Вульцы-Нурэцкай, Тымянцы і Клюковічах — калісьці гонар партыйных і адміністрацыйных улад — дажываюць свой час. Прыватызацыйны працэс найхутчэй прайшоў у Клюковічах. Тут калгасная маёмасць ужо поўнасцю добраўпарадкавана. Члены кааператыва забралі назад свае ўчасткі, а рэшту грунтаў і збудаванні арандуе прадпрымальнік з Сямятыч, які вырошчвае тут збожжавыя культуры і агародніну. Аднак калгасныя традыцыі ў Клюковічах не звяліся. Для вырошчвання і ўборкі агародніны прадпрымальнік наймае рабочых з-за ўсходняй мяжы. Жывуць яны тады ў пустуючых хатах у Вычулках ці Клюковічах і кожны дзень выходзяць калектыўна на прыватныя ўжо плантацыі.

У Вульцы-Нурэцкай члены кааперат-

*(працяг на стар. 3)*

Сакрат Яновіч

## Беларусы ў Польшчы

### — нацыянальная меншыня, ці малая нацыя Еўропы?

Беларусам у Польшчы характэрны ўсе рысы нацыі, уключна з уласнай этнічнай тэрыторыяй. Здарылася так у выніку далучэння да польскай дзяржавы часткі карэннай Беларусі. Гэта не была анексія. Бадай не знойдзецца ў Еўропе такая дзяржава, межы якой адпавядаюць этнаграфічным; часта важнейшымі ў іх вызначэнні аказаліся фактары эканамічныя або палітычныя.

Польскія беларусы лічацца нацыянальнай меншыняю. Гэта, аднак, паступова перастае быць адназначным. Перш за ўсё ў моц тых агульнаграмадскіх працэсаў, якія набываюць размах у Беларусі. Наша Беласточчына страчвае пачуццё ідэнтыфікацыі з усебеларускім арэалам, на якім існуе мацярынская нам дзяржава. Яна, на жаль, пераўтвараецца ў сваё запярэчанне, робячыся творам выключна сацыяльна-адміністратыўным, расійскай правінцыйнай аўтаноміяй з правамі міжнароднага суб'екта. Дэгенеруецца ў яшчэ адну дзяржаву рускіх, у якой этнонім „беларус" рэдукуецца да рэгіянальнага (тыпу: сібірак, масквіч).

Дзеля зразумення згаданае з'явы, прыглядзімся да самое сутнасці нацыянальнае меншыні. Мае яна месца тады толькі, калі ўяўляе сабою фрагмент нацыянальнай цэласці ў выглядзе суседняй дзяржавы або дзяржаўнага ўтварэння. Спрацоўвае тут абавязковы прынцып узаемадзеяння паміж цэнтрам і перыферыяй, калі асяродак вызначае лінію кола.

У дадзеным на сёння становішчы адсутнічае гэткая цэнтрабежнасць, беларускі маналіт распадаецца ў несудакранальныя кавалкі, свядомыя беларусы ў Рэспубліцы Беларусь апынуліся на ўзроўні нацыянальнай меншыні.

Небеларускі імідж Рэспублікі Беларусь накшталт тыповых у Трэцім Свеце сацыяльных рэспублік, цалкам прасякнутых духоўнасцю нядаўніх каланізатараў, не дарэшты высушвае ў нас эмацыянальныя сувязі з першаплемяннай Бацькаўшчынай. Разам з тым вельмі моцна ў негатыўным сэнсе ўплывае на тое эканамічны і цывілізацыйны заняпад, які наглядаецца наогул на славянскім Усходзе, а ў Беларусі ў асаблівасці. У той час, калі ў Польшчы і ў іншых былых краінах т.зв. народнай дэмакратыі адбываецца цяпер імклівае развіццё гаспадаркі і культуры, у Беларусі набывае нейкай дзіўнай стабільнасці ўпадак у бездань галечы і беспраўя. А гэта якраз аніяк не стасуецца з менталітэтам беларуса — чалавекам практычным, дбайлівым, працавітым. Затое дакладна суадносіцца з дасведчанымі нам савецкімі людзьмі, з іх паводзінамі гультая, п'яніцы і лапатуна, а найбольш ашуканца.

Па волі гісторыі Беларусь асуджана на матэрыяльную і, натуральна, духоўную залежнасць ад расійскага гіганта. Не мусіць гэта прадракаць ёй перспектыву нацыянальнай смерці, хоць ужо не ў стане яна пазбыцца расійска-беларускага дуалізму, які — у лепшым варыянце падзей — усталюецца. Гэта капітальнае сцвярджэнне ў кантэксце разважанняў пра беларускую меншыню ў Польшчы, духоўны дуалізм якой фармуецца ў напрамку менавіта польскай дамінацыі, першаступеннасці. Адсюль вынікацьмуць у павышаных тэмпах усякія характэрнасці ды адрознасці ў культурнай творчасці польскіх беларусаў. Гэтыя, супрацьлеглыя беларушчыне, тэндэнцыі, іх яскравасць, можа гасіць пашыраная ініцыяцыя вяртання Беларусі ў Еўропу. Што нерэальнае без далейшае еўрапеізацыі самое Расіі.

Гарадызацыя, якая ахапіла цывілізаваныя абшары свету, якасна зусім змяняе ўмовы існавання меншасных этнік. Індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі пазбавіла якога-колечы ратунку вёску як грамадска-самастойную раней структуру і, адначасна, традыцыйнае мястэчка, зазвычай ліквідуючы іх абое з цягам часу. Што гэта абазначае? Толькі адно — знікненне этнічных тэрыторыяў, трансфармацыю аўтахтоннага насельніцтва ў гарадскую дыяспару. Татальную асіміляцыю, нацыянальную тоеснасць з грамадзянскай прыналежнасцю. У абставінах Беларусі — расійска-беларускую шызафрэнію, сапраўды кшталтам англафонскіх ірландцаў, абавязкова вывучаючых у школах родна-кельцкую мову. Разумеючых яе, але не гаворачых на ёй. Слаба даследаваная грамадская прырода этнічна-нацыянальнай мовы паказвае ўсё ж на тое, што: калі яе знікненне асушвае ўжо і народныя ёй крыніцы, ніколі не ўваскрасае, нават пад ціскам таталітарных рэжымаў, а аднаўленне жыдамі сваёй у Ізраілі ёсць тым адступленнем ад правіла, якое пацвярджае правіла.

Каб учыніць поўнай русіфікацыю Беларусі, трэба адняць у яе волю на свой лёс і ва ўсім спадзявацца на Маскву. Нацыі бяруцца менавіта з адчування пазітыўнай асобнасці лёсу, якую потым ахоўвае свая дзяржаўнасць. У беларускай нацыянальнай меншыні ў Беласточчыне няпольскае непадабенства жыцця хутка перастане быць нечым істотным, знакамітая большасць яе ўжо перавандравала ў беластоцкую агламерацыю, элітную па велічыні ды заможнасці ў краіне. Гэта магістральны шлях у паланізацыю, супрацівіцца якой было б утопіяй, а нярэдка і немаральна з чыста чалавечых меркаванняў.

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Dlaczego chcecie chodzić do polskiej szkoły w Grodnie? Większość dzieci odpowiada: bo jesteśmy Polakami. Polska szkoła wygląda imponująco. Jest nowoczesna. Problem dojazdu do szkoły rozwiązano w ten sposób, że po Grodnie będzie kursować autokar Związku Polaków, który zabierze dzieci. Z naborem uczniów nie było problemów. Po polsku chcą też uczyć się Białorusini i Rosjanie. Dla nich w polskiej szkole też jest miejsce. Jedną z nauczycielek jest Liliana Możejko. Studia kończyła w Polsce. — Jestem szczęśliwa, że będę tu uczyć. Najważniejsze jest uczyć Polskie Dzieci!*

*Kurier Poranny, nr 226*

Ці калі-небудзь нейкі настаўнік на Беласточчыне скажа, што найважнейшае яму — вучыць беларускіх дзяцей і на беларускай мове?

* * *

*Jeśli tak dalej pójdzie, to w krótkim czasie polska armia będzie armią nieuków i debili. Żołnierze, mimo iż ukończyli kilkumiesięczny kurs, nie potrafią prawidłowo obsługiwać przydzielonego im urządzenia. Rocznie 60 tys. młodych chłopców, czyli pięć dywizji zmechanizowanych, odraczanych jest z powodu chorób psychicznych. W ostatnich latach rośnie liczba napaści żołnierzy na dowódców i starszych stopniem, a także liczba przestępstw pospolitych, popełnianych przez żołnierzy w czasie przepustek i urlopów.*

*Wprost, nr 32*

* * *

*W Ameryce panuje epidemia sądzenia się. Nałogowy palacz, chory na raka płuc, wygrał proces z producentem papierosów Luckie Strike. Zasądzono odszkodowanie w wysokości 750 tys. dolarów. Alkoholicy skarżą wytwórnie wódek i win. Członkowie sekt religijnych swych wielebnych o moralne zniewolenie, kobiety z powiększonymi biustami wytaczają procesy fabrykom silikonu. Córki oskarżają swoich ojców o kazirodcze stosunki seksualne. Rodzice z kolei — terapeutów, którzy w drodze hipnozy zasugerowali takie pomysły swoim pacjentkom. Reguła jest prosta: oskarża się tego, kto ma pieniądze.*

*Polityka, nr 39*

Ці не мелі рацыі савецкія вучоныя, якія ўжо дзесяткі гадоў таму гаварылі, што капіталізм вядзе да поўнай дэгенерацыі чалавека.

* * *

*На Беларусі зноў класічнае: „паны б'юцца, у мужыкоў губы трашчаць" — у разгары чарговая вайна паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам. Парламент папярэдняга склікання быў цалкам, досыць хутка выканаўчай уладай пераможаны. Сёння падышла чарга іх пераемнікаў — новых дэпутатаў. А. Лукашэнка не пажадаў „падружыцца" з новымі народнымі абраннікамі, што было цалкам магчыма і значна бяспечней, а Вярхоўны Савет раптам пачаў супраціўляцца вылучанай для яго ролі „хлопчыка для біцця".*

*Голас Радзімы, н-р 39*

* * *

*Głupcem jest ten, kto nie pilnuje podstawowych elementów demokracji, oddając pole przeciwnikowi. Jeżeli każdy ma takie same szanse oszustwa i jeden oszukuje, a drugi nie, to ten drugi jest naiwny, jeżeli nie głupi,* — сказаў былы прэзідэнт Лех Валэнса.

*Wprost, nr 36*

Якое гэта ўсё простае і зразумелае!

* * *

*Powołaliśmy Wspólnotę Niepodległych Państw, żeby proces rozpadu ZSRR był pod kontrolą, żeby było forum, na którym mogą się spotkać prezydenci niezależnych państw,* — сказаў прэзідэнт Казахстана Нурсалтан Назарбаеў.

*Gazeta Wyborcza, nr 227*

Толькі Лукашэнка, прэзідэнт Беларусі, думаў, што Садружнасць гэта новы Савецкі Саюз.

* * *

*Elżbieta i Sławomir Prymaka pobrali się trzy lata temu. Ona — katoliczka, on — prawosławny. Mieszkają w Białymstoku, ale ślub brali w parafii Elżbiety w Krynkach. Zadeklarowali przy ślubie, że wychowają dzieci na katolików. Kilka tygodni temu proboszcz z Krynek odmówił ochrzczenia dziecka. Powód: ojciec chrzestny jest prawosławny.*

*— W moim Kościele rodzice chrzestni muszą być tej samej wiary — tłumaczy ks. Jan Okurowski. Ja bronię rodziny katolickiej i wiary, żeby nie było tego, co jest, bo tu co trzecia rodzina jest mieszana. A z rodziny mieszanej nie ma żadnego pożytku. Ten Prymaka myśli, że będzie u mnie rządził. Nic z tego. Choć tutaj ślub wziął, ale rządzić może u batiuszki.*

*Gazeta Wyborcza, nr 229*

Мы поўнасцю падтрымліваем вялебнага пробашча. Трэба гнаць з касцёла ўсялякіх пярэхрыстаў. Толькі павянчай такога, а зараз прыкідваецца вялікім палякам і католікам, а яшчэ і ў першай лаўцы ў касцеле месца зойме. Валачэ пасля такі сваіх неперахрышчаных сваякоў у касцёл. Проста прафанацыя! Спачуванні, „ксенжэ пробашчу".

* * *

*Kiedyś kobiety były zdrowsze, dlatego mężczyźni dłużej żyli. Dziś żona najpierw jest słaba (bo jest kobietą), potem niedomaga, później kwęka, następnie jest chora, bardzo chora, śmiertelnie chora. No a potem — jest wdową.*

*Polityka, nr 39*

# З мінулага тыдня

**Віслава Шымборска** атрымала Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Камісія прысудзіла гэту ўзнагароду „за паэзію, якая з іранічнай дакладнасцю адкрывае правы біялогіі і дзеянне гісторыі ў фрагментах чалавечай рэчаіснасці". Творы гэтай найбольш вядомай сучаснай польскай паэтэсы перакладаліся на 36 моў свету, а на 18 мовах выйшлі зборнікі яе вершаў. Беларускага чытача з творчасцю Шымборскай пазнаёміла **Ніна Мацяш**, якой пераклады склалі томік „Свет, варты вяртання", што выйшаў друкам у 1991 г. у серыі „Паэзія народаў свету".

**На VI Міжнародным эканамічным форуме „Польшча — Усход"**, які ў днях 10–12 кастрычніка праходзіў у Крыніцы-Гурскай, удзельнічала афіцыйная беларуская дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам **Сяргеем Лінгам**.

**У ХАТ — Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі** ў Варшаве інаўгурацыю новага акадэмічнага года папярэдзіла экуменічнае набажэнства, якое служылі духоўныя лютэранскага, польска-каталіцкага і праваслаўнага веравызнанняў. Пачалі таксама працу новыя ўлады акадэміі, якой рэктарам з'яўляецца цяпер епіскап Вроцлаўска-Шчэцінскі **Іерамія**. У ХАТ вучыцца 501 студэнт.

**Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч** прыняў удзел у інаўгурацыі новага акадэмічнага года на Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Прэм'ер абяцаў падтрымку для ідэі стварэння ў Беластоку самастойнага універсітэта, а шанцы на стварэнне такой навучальнай установы яшчэ ў гэтым акадэмічным годзе ацаніў на 95 працэнтаў.

**Беласток** можа ў будучыні стаць важным цэнтрам гандлёвага і гаспадарчага абмену ўсход-захад, — сказаў **Марк Галішэўскі**, старшыня Business Centre Club на сустрэчы з беластоцкімі прадпрымальнікамі. На яго думку, развіццё рэгіёна ў значнай ступені абумоўлена тым, якія працэсы адбудуцца на ўсходзе. Калі там гаспадарка стане стабілізавацца, то на Беласточчыне ўзнікнуць вялікія інвестыцыйныя шанцы.

**У Дуброве-Беластоцкай** падчас фэсту Польскага чырвонага крыжа сабрана звыш 300 зл. Грошы будуць перададзены на дакормліванне дзяцей у школах. Маладзёжны рух ПЧК адзначае 75-годдзе свайго існавання. Фэсту спадарожнічала донарская акцыя, у выніку якой кроў аддалі 36 чалавек.

**У Белавежы** адбылося пасяджэнне Навукова-грамадскай рады Лясного прамацыйнага комплексу „Белавежская пушча". Створана яна была год таму, як адна з дзесяці рад прамацыйных комплексаў у краіне. Рада — дарадчы орган Міністэрства аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лесаводства. Улічваючы асаблівы характар Белавежскай пушчы, у склад Рады (35 чалавек) уваходзяць таксама вучоныя сельскагаспадарчых акадэміяў з Познані, Кракава і Варшавы. Падчас сустрэчы ўдзельнікі пазнаёміліся з ходам выканання рашэння міністра аховы асяроддзя ў справе прынцыпаў вырошчвання лясоў у Белавежскай пушчы. Сакратар Рады **Гжэгаж Бялецкі** заявіў, што лясная гаспадарка ў прамацыйным комплексе мае быць узорам для астатніх комплексаў у краіне.

**У Адрынках** Нарваўскай гміны ад кароткага замыкання загарэлася клуня. Згарэлі дах і часткова сцены будынка, а таксама сена, салома і сельскагаспадарчыя машыны. Страты ўчыненыя пажарам складаюць 30 тыс. зл.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Янка Жамойцін пра беларускі пераклад „Іліяды".
- Размова Сакрата Яновіча з Дзмітрым Шатыловічам пра матэматыку і паэзію.

# Весткі з Беларусі

**Канферэнцыя „Бацькаўшчыны"**

У Менску адбылася II Практычна-навуковая канферэнцыя „Культура і адукацыя беларускага замежжа", арганізаваная Згуртаваннем беларусаў свету „Бацькаўшчына". Яе мэта — аналіз і вывучэнне праблем культуры беларускіх асяроддзяў, між іншым у Польшчы, ЗША, Канадзе, краінах Балтыі. Сакрат Яновіч выступіў на канферэнцыі з дакладам „Беларусы ў Польшчы — нацыянальная меншыня, ці малая нацыя Еўропы?".

**Занепакоенасць Афганістанам**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падтрымаў прапанову прэзідэнта Расейскай Федэрацыі Барыса Ельцына аб правядзенні ў самы бліжэйшы час сустрэчы кіраўнікоў краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Беларускі прэзідэнт раздзяляе занепакоенасць Расеі і іншых краін Садружнасці сітуацыяй у Афганістане. Ён лічыць, што кіраўнікам краін СНД трэба абмеркаваць і выпрацаваць агульную пазіцыю ў адносінах да гэтага канфлікту.

**Гаспадарскі візіт**

5 кастрычніка прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наведаў менскі мікраараён Малінаўка. Гэта адзін з самых новых масіваў Менска. Асноўную частку насельніцтва мікрараёна складаюць перасяленцы забруджаных раёнаў рэспублікі. Прэзідэнт агледаў там забудову мікрараёна, пабываў у дзіцячай паліклініцы, адкрыў аўтаматычную тэлефонную станцыю і новую тралейбусную лінію ды наведаў індывідуальны жылы дом, які ўзводзіцца па праспекце Дзяржынскага па нарвежскім праекце.

**Настаўніцкае свята**

6 кастрычніка адзначаўся Дзень настаўніка — прафесійнае свята вялікай кагорты людзей, якія прызваны сеяць разумнае, добрае, вечнае. У Беларусі больш за 180 тысяч настаўнікаў, якія штодзённа прыходзяць у школы вялікіх і малых гарадоў, населеных пунктаў і вёсак. Напярэдадні ў школах адбыліся святочныя вечарыны і агеньчыкі, прайшлі сходы педагагічных калектываў раёнаў, на якіх абмеркаваны формы і метады выхавання маладога пакалення, шляхі іх удасканалення. Перад 520 настаўнікамі, делегатамі з усіх раёнаў краіны, выступіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які паставіў ім задачы і пажадаў невычэрпнага здароўя, натхнення, любві да выхаванцаў і асабістага шчасця.

**Студэнцкая інаўгурацыя**

4 кастрычніка ў Цэнтральным доме афіцэраў Беларускі універсітэт культуры правёў інаўгурацыю новага акадэмічнага года. Падчас свята адбылося пасвячэнне першакурснікаў у студэнты і тэатралізаванае прадстаўленне, у ходзе якога былі ўвасоблены вобразы славутых беларускіх асветнікаў, традыцыі якіх захоўваюць у гэтай ВНУ. Інаўгурацыя завяршылася вялікім гала-канцэртам, у якім прынялі ўдзел лепшыя калектывы ўстановы.

**Культурнае пагадненне**

Рабочая сустрэча кіраўнікоў фондаў культуры Беларусі, Расеі, Польшчы і краін Балтыі адбылася ў Гродне. На ёй былі абмеркаваны магчымасці прадаўжэння і пашырэння сяброўскіх творчых кантактаў, дзелавых сувязей паміж грамадскімі арганізацыямі. У падпісаным пагадненні адзначаецца, што супрацоўніцтва павінна грунтавацца на захаванні раўнапраўя нацыянальных культур суседніх народаў. Вялікая ўвага нададзена развіццю культур нацыянальных меншасцей, вяртанню на радзіму незаконна вывезеных культурных каштоўнасцей. У будучым такія сустрэчы будуць праводзіцца рэгулярна.

**Франкфурцкі кірмаш**

Беларусь прыняла ўдзел у найбуйнейшым кніжным кірмашы, які сорак восьмы раз праходзіў у Франкфурце-на-Майне. На нацыянальным стэндзе прадстаўлена было звыш двухсот выданняў. У кірмашы ўдзельнічала дэлегацыя выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюджвальнікаў кніг на чале са старшынёй Дзяржкамдруку Уладзімірам Бельскім.

**Гуманітарны груз**

Чарговы самалёт з гуманітарным грузам ад шэрагу амерыканскіх дабрачынных арганізацый прыбыў у аэрапорт Менск-2. На адрас міжнароднай грамадскай арганізацыі „Надзея-экспрэс" дастаўлены антыбіётыкі і хірургічныя прылады агульным коштам каля 4 млн. долараў ЗША. Мяркуецца, што медыкаменты будуць бязвыплатна перададзены медыцынскім установам рэспублікі.

# Нельга ліквідаваць традыцыі

*(працяг са стар. 1)*

тыва яшчэ не справіліся з падзелам калгаснай зямлі. Цяжка цяпер выдзеліць участкі згодна жаданням усіх калгаснікаў. Апелююць тады людзі ў вышэйшыя інстанцыі, асабліва ў справе лясных дзялянак. Няма таксама ахвотных купіць ці ўзяць у арэнду будынкі жывёлагадоўчага комплексу.

Трымаецца яшчэ калгас у Тымянцы, які займаецца вырошчваннем збожжавых. Рытм жыцця каапératыўнага калектыву адмервае паўгадавы цыкл: паўгода людзі працуюць на калгасным полі і такім чынам зарабляюць на сваё ўтрыманне, а ў другім паўгоддзі пераходзяць на беспрацоўнае становішча і жывуць на дапамогу па беспрацоўі.

Сёмы год грамадска-палітычнай трансфармацыі не прынёс рашучых змяненняў у гаспадарчым вобліку гміны. Апрача прыватных крамаў амаль у кожнай вёсцы, у сядзібе гміны ўзніклі дзве прыватныя фірмы: тартак „Drewnur" (на базе дзяржаўнага прадпрыемства) і дрэваапрацоўчая суполка „Drewar".

**Асветная дылема**

На тэрыторыі гміны працуюць тры пачатковыя школы: самая вялікая — у самім Нурцы, і меншыя — у Семіхочах і Клюковічах.

— Першапачатковай датацыі на дзейнасць школ напэўна нам не хапіла б, — кажа сакратар гміны **Анатоль Данілюк**. — Сталі мы дабівацца ў Кураторыі асветы дадатковых сродкаў на школьніцтва і нават падрыхтавалі апеляцыю ў форме судовай позвы. У выніку нашых намаганняў атрымалі мы яшчэ 65 тысяч зл. (хаця патрабавалі 95 тысяч зл.) і калі дабавілі са свайго бюджэту 30 тысяч зл., змаглі неяк забяспечыць неабходныя патрэбы школ. У час апошніх канікул мы не праводзілі рамонтаў. Дробныя папраўкі ці маляванне сцен рабіліся на сродкі бацькоўскіх камітэтаў і сіламі школьнага персаналу.

У самым незайздросным становішчы апынулася Пачатковая школа ў Клюковічах. Зараз сем настаўнікаў вучаць у васьмі класах усяго 46 дзяцей. Дэмаграфічныя прагнозы не прадугледжваюць павелічэння ў найбліжэйшых гадах колькасці дзяцей у гэтым школьным раёне. Сакратар гміны бачыць рэальную пагрозу для існавання школы ў гэтай мясцовасці.

— Калі гміне будзе бракаваць сродкаў, — кажа Анатоль Данілюк, — то, мабыць, прыйдзецца ліквідаваць школу ў Клюковічах. Тады дзяцей давядзецца вазіць у Семіхочы, дзе ў прасторнай школе займецца каля ста вучняў. Такая ліквідацыя дала б гміннаму бюджэту ашчаднасць велічынёю двух трацін расходаў, якія затрачваюцца на функцыянаванне гэтай школы.

Аднак сакратар Данілюк перакананы, што гмінныя ўлады будуць старацца ўтрымаць школу ў Клюковічах як мага найдаўжэй. Школьны двухпавярховы будынак пабудаваны быў там яшчэ перад вайной. Пасля вайны Клюковічы амаль на чвэрць стагоддзя сталі сядзібай грамадскай рады нарадовай з тыповай для такога цэнтру інфраструктурай. Калі ў пачатку сямідзесятых гадоў паўставалі сённяшнія гміны, у адміністрацыйным будынку размясціўся асяродак здароўя. Цяпер, каб не дапусціць да ліквідацыі вясковай амбулаторыі, гміна забяспечвае са сваіх сродкаў матэрыяльны бок функцыянавання асяродка, а сямятыцкі ЗОЗ — падсылае лекара. Нельга бяздушна, толькі па эканамічных меркаваннях, ліквідаваць традыцыі ў культурна-асветнай сферы і ўсе тыя даброты, якімі раней карысталіся жыхары пусцеючых цяпер вёсак.

**Дзве разынкі**

У маштабе гміны лік насельніцтва ў апошнім часе не падае і вагаецца ў межах 5600—5700 чалавек, з чаго дзве траціны складаюць праваслаўныя. Калі ўважліва прыглядзецца дзейнасці культурна-асветных устаноў у гміне, ды паспрабаваць шукаць у іх беларускія элементы, можна знайсці дзве разынкі. Адна з іх — народны жаночы калектыў „Tęcza", які дзейнічае пры Гмінным асяродку распаўсюджвання культуры, і ў рэпертуары якога маюцца таксама і беларускія фальклорныя песні. Другі астравок — гэта школа ў Клюковічах, у якой дзеці вывучаюць родную мову. Аднак перспектывы ў гэтай школы няма і, мабыць, з ліквідацыяй гэтай асветнай установы загіне ў гміне Нурэц-Станцыя традыцыя навучання дзяцей у школах беларускай мове.

**Віталь Луба**

*Фота з архіва*



*Школьны двухпавярховы будынак пабудаваны быў у Клюковічах яшчэ перад вайной.*

# Не ўсіх аднолькава

Аб працаўніках паштовага аддзялення ў Чаромсе не заўсёды мілае слова пачуеш у чыгуначным пасёлку. Аднак у большасці недахопаў і хібаў нашых паважаных паштавікоў справы тычацца тэлефонных паслуг і неакуратнай дастаўкі карэспандэнцыі пісьманосцамі. Бо як жа гэта можа быць, даражэнькія, каб чалавек цэлыя дваццаць хвілін круціў ручкаю тэлефона, каб пачуць голас тэлефаністкі ў трубцы? Аднак такія прыклады здараюцца ў нас, у Чаромсе. Хоць сумная гэта праўда, аднак праўда!

У народзе гаворыцца, што не адным „мірам" усіх трэба „мазаць", таму я і кажу, што не ўсіх працаўнікоў чаромхаўскай пошты аднолькава трэба ацэньваць.

Вось, напрыклад, возьмем касірку Анну Ляўчук. Зайшоў я на пошту 1 кастрычніка г.г., каб узяць сваю пенсію на поцце. Чарга аграмадная. Чалавек некалькі дзесяткаў. Заняўшы чаргу за знаёмым прыяцелем, паехаў я сам на рыначак за пакупкамі. Калі пасля паўгадзіннай адсутнасці вярнуўся я ў сваю чаргу, перада мною заставалася ўсяго не больш дванаццаці чалавек. Мне прыйшлося стаяць усяго пятнаццаць хвілін, каб атрымаць грошы. Чакаючы, я сачыў за абслугай кліентаў. Ветліва, без лішніх цырымоній сп. Анна Ляўчук выплачвала пенсіянерам „палучкі". Нікому не сказала яна дрэннага слова. Вясёлая ўсмешка на твары касіркі і „дзякуй" з абодвух старон акенца безупынна чуліся ў прыёмнай.

Як бачым, і сярод працаўнікоў чаромхаўскай пошты можна сустрэць ветлівых і акуратных работнікаў. Такіх якраз нам і трэба! **(ус)**

# Семяноўка адрэзаная ад свету...

...у святы і выхадныя дні. Не рэкамендуецца тады нікому хварэць, гарэць, ці наогул трапіць у якое іншае нешчаслівае становішча. Па-просту, не будзе вам як выклікаць дапамогу. У школе тэлефон тады адключаны, пошта не працуе. Праўда, на дзвярах пошты ўбачыце картачку, што тэлефон у прыхадскім доме, але пакарыстацца ім наўрад ці вам удасца. Можаце круціць ручкай апарата колькі сабе захочаце, а пошта ў Нараўцы і так не адазвецца. Кажуць, клапанчык там не адскоквае. **(ак)**

# Тутэйшы бізнес

У славянскай традыцыі кожная сяброўская сустрэча ці якое-небудзь святкаванне без спіртных вырабаў на стале будзе лічыцца няўдалым, непаўнацэнным. Цяжка нават уявіць сабе вяселле, хрэсьбіны ці іншую сямейную ўрачыстасць без гарэлкі. Не раз ужо здаралася, што на хаўтурах удзельнікі застолля пілі за здароўе толькі што пахаванага нябожчыка. А ўвогуле то, як гаворыць народная прымаўка, больш складаных праблемаў „без водки не разберёшь".

Прэса тым часам інфармуе, што за апошні год грамадзяне Польшчы выпілі амаль 150 мільёнаў літраў чыстага спірту ў выглядзе купленай у крамах гарэлкі, у бутлях апячатаных акцызнымі бандэролямі. Аптымісты гавораць, што гэта толькі палова ўсіх спіртных вырабаў, спажываных жыхарамі краіны. Амаль кожны, хто бывае ў ваколіцы беластоцкіх базараў, атрымлівае прапанову зрабіць першакласны бізнес — купіць прадукты мясцовага „Polmosu" напалову танней, чым у краме. Сутнасці гэтага бізнесу таксама без спірту не „разберёшь". Беластоцкі ці люблінскі спіртзаводы пасылаюць свае вырабы ў былыя савецкія рэспублікі і робяць гэта дзеля прыбытку. Напэўна з прыбыткам прадаюць гэты тавар у крамы аптавікі з Беларусі, Украіны, Расіі. Польскія кантрабандысты купляюць спірт найчасцей на вакзалах Гародні, Бярэсця, Львова, але пакуль літровыя бутлі апынуцца ў іх сумках, раней зарабілі на іх продажы ўласнікі беларускіх ці ўкраінскіх крамаў і ўсе ветлівыя людзі, якія аблягчаюць жыццё пакупнікам з Польшчы. Пераехаўшы пару соцень кіламетраў і двойчы перасекшы дзяржаўную мяжу, спірт вяртаецца ў горад сваёй вытворчасці і прытым становіцца напалову таннейшым, чым той, якога нікуды не вазілі.

Здаецца, няма такой вёскі ва ўсходняй Беласточчыне, у якую не завіталі б пачынаючыя прадпрымальнікі з Беларусі. Памятаючы пра нялёгкае жыццё сваіх тут суродзічаў і, каб прынамсі трошку яго развесяліць, забяспечваюць іх вырабамі беластоцкага спіртзавода. Усе бакі гэтай здзелкі задаволены: нашы суродзічы з-за мяжы — бо аказваюць інтэрнацыяналістычныя паслугі грамадзянам суседняй краіны, а нашы п'яніцы ды пенсіянеры — бо не пакідаючы сваіх панадворкаў атрымліваюць сродкі для выжывання ва ўмовах штодзённай нуды. Нічога, што кожная бутля смярдзіць інакш — адна бензінам, другая нейкай газай, а трэцяя нечым неакрэсленым, але змесціва кожнай вокамгненна пераносіць спажыўца ў стан незвычайных уражанняў, знакамітага самаадчування. Цана гэтага эліксіру прыблізна такая самая як сіняга каньяку, але куды больш прэстыжна, калі на стале стаіць прадукт фірмы „Polmos", чым з наклейкай з гербам канібалаў.

Савецкі экспарт польскага спірту ў Польшчу зусім знішчыў хатнюю прадукцыю высакаякасных дыстыляваных напіткаў. Амаль ніхто ўжо не ставіць настойкі, у свірнах не бушуе брага, а ў лясах не пабачыш вогнішчаў, над якімі вісяць усялякай велічыні кацялкі. Арамат іх змесціва нядаўна яшчэ прыцягваў навакольнае чырвананосае племя. Апошнім часам найбольш прадпрымальныя прадстаўнікі нашага народа прыдумалі нават тэхніку, якая маланкава дае пажаданы прадукт, без патрэбы выкарыстання полымя вогнішча. Дваццацілітровыя бітоны, аснашчаныя ўнутры электракіпяцільнікамі, дазваляюць праз 30-40 хвілін атрымаць 3-4 літры „бімбру" найвышэйшай якасці. Але і гэтая тэхніка ржавее. Прасцей і без рызыкі купіць падобны тавар у савецкіх турыстаў.

Апошнім часам у некаторых вёсках Заблудаўскай, Міхалоўскай, Бельскай гмін з'явіліся прадпрымальнікі з Беластока, якія купляюць пустыя літровыя бутлі. Цана, якую прапануюць — 50-70 грошаў за штуку — заахвочвае вяскоўцаў да рацыянальнай гаспадаркі гэтай шклатарай. Некаторыя беластоцкія бізнесмены плацяць нават таварам за тавар. Хапае тады назбіраць 30-40 пустых бутляў і можна за іх атрымаць адну поўную. Такі тутэйшы бізнес.

**Васіль Кургановіч**

# Беларусы ў Польшчы

*(працяг са стар. 1)*

Як рэагуе нацыянальная мяншыня, якая пачынае арыентавацца, што сама нацыя і базавая ёй дзяржава ссыхаюцца? Заціхаюць тады ў ёй імпульсы таго, што папулярна называецца нацыянальным гонарам, і ўзмацняецца настойлівае жаданне інтэграванца з дзяржаўнай бальшынёю. Гэта комплекс сірочасці, з якім немагчыма доўга жыць, не пазбавіўшыся яго хаця б шляхам адопцыі. У такіх псіхалагічна-інтэлектуальных варунках трываюць у беларускасці выключна інтэлігентныя адзінкі, а беларускае слова выконвае вольту ў публічным успрыняцці ад сіноніма цемнаты і прымітывізму да празнакі разумовае элітнасці (у савецкай Беларусі атаясамлівалі яго з пісьменнікамі, за сталінскім часам). Такім чынам мяншыня надалей існуе, але не як грамадска важная з'ява, а як культурная асаблівасць. У Беласточчыне выразна відаць тое на прыкладзе літаратурнага руху. Творчасць некаторых аўтараў „Белавежы" дасягнула ўсяпольскага значэння і, нават, стала вядомай на захадзе Еўропы, што дало падставу рэцэнзентам загаварыць пра Польшчу як краіну дзвюх літаратур, польскай і беларускай. Але кніжкі „белавежцаў" тутэйшы масавы чытач не жадае набываць на мове іх арыгінала: у польскіх перакладах распрадаюцца нармальна, а па-беларуску ўсяго лічаныя экземпляры. Але гэтая польска-беларуская (ці беларуска-польская?) літаратура яшчэ доўга будзе жывым з'явішчам, дзякуючы аўтахтоннасці яе каранёў. Чаго нельга сказаць пра эміграцкую — яе век лімітуюць не грамадскія фактары, а сціслa адзінкавая працягласць жыцця паасобных аўтараў. Гісторыя сусветнай літаратуры не ведае выпадку з'яўлення значных творцаў радаводнай нацыі, народжаных у нацыянальнай эміграцыі. Прычыны таго банальна простыя: прыгожае пісьменства, як кожнае мастацтва, не паддаецца рацыяналізацыі, эмацыянальна-ірацыянальнае яно, і вырастае кшталтам расліны ў дадзеным клімаце (напр. пальму не вырасціш у халадах Наваградчыны, як і не прымецца ў Амазоніі наша польная дзічка). У штаце Нью-Джэрсі ніколі не паявіцца, хаця б сярэдняй рукі, беларускі паэтычны талент, бо няма там Беларусі. Яна, аднак, ёсць і застанецца ў Беласточчыне, прынамсі ў выглядзе польска-беларускай гібрыднасці. У гэтай колішняй Яцвягіі, прыйшоўшая сюды беларускасць не зарасце травою забыцця, бо стварыла яна тут высокую культуру, якая па сваёй прыродзе несмяротная.

Гэта таму, гаворачы пра Польшчу як краіну дзвюх літаратур, магчыма адначасна ахарактарызоўваць саму беларускую літаратуру, як літаратуру двух лёсаў, або яшчэ інача — як уласнабеларускую і заходнебеларускую. Падобны феномен не наглядаецца ў іншых славянскіх літаратурах і, відаць, наогул у еўрапейскіх. Мастацкі патэнцыял беларускай мяншыні аказаўся феменальна ўнікальным!

У гэтай сувязі насоўваецца брутальнае пытанне: як доўга можа пратрымацца нацыянальная літаратура без жывой нацыянальнай мовы? З гістарычнага гледзішча абумоўлена тое выключна існаваннем асобнае дзяржаўнасці. Калі б паланізацыя баярскай Літвы не адбывалася ў сінхроніі з адміраннем самога Княства, усё скончылася б толькі зменаю мовы нацыянальнай культуры. І разам з дэмакратызацыяй грамадскага побыту ў непазбежны капіталізм пачаўся б бурлівы працэс рэбеларусізацыі, пад націскам эмансіпаваных плебейскіх слаёў насельніцтва. Дэнацыяналізацыя элітаў не мае тае канчальнае незваротнасці, як у выпадку дэнацыяналізацыі самога этнасу.

Без беларускага дзяржаўнага ўтварэння пасля першай сусветнай вайны сёння не было б гаворкі пра культуру беларусаў як нацыянальную, але як пра расійскую беларускага племя (Генрык Сянкевіч атрымаў Нобелеўскую прэмію ў 1905 г. як „выдающийся русский писатель, который пишет на польском наречии").

Нас, беларусаў Беласточчыны, непераадольна раз'ядноўвае з русіфікаванай Рэспублікай Беларусь менавіта руская мова, расійскае слова. Цэментуючая ўсіх беларушчына — практычна пазбаўленая дамінанты — стаўшы палітычна адсунутай у маргінальнасць, няздольная выконваць сваю інтэграцыйную ролю ў дачыненнях з беларуска-меншасным замежжам. Моўная праблема, такім чынам, вырастае ў трывалы бар'ер, сцяну, за якою пакуль яшчэ жывое роднае слова паступова стварае беларуска-польскі гібрыд. Гэтая новая псіха-культурная якасць, усё мацней адколваючыся ад расійска-беларускай за ўсходняй мяжою Польшчы, набывае сваёй нованацыянальнай непаўторнасці, якую можа знішчыць нішто іншае, як татальны „нізавы пажар" паланізацыі, што распалымнела ўжо ў самапаланізацыю (аналагічна да цяперашняй самарусіфікацыі). Малыя нацыі Еўропы сфармаваліся па самых розных прыкметах, часцей веравызнаўчых, але, здарылася, і моўных: на раманізаваным арэале тых жа кельтаў; гала-французы і гала-брэтонцы. Або англізаваны шатландцы і адзінакроўныя ім гэлы.

Усё вырашыць характар стабілізацыі Рэспублікі Беларусь. Калі канчаткова сфармуецца яна як русафонскае ўтварэнне, у школах якой беларускую літаратуру будуць вывучаць у рускіх перакладах, у Беласточчыне рушыцца працэс пачуцця адзінабеларускай тоеснасці, афарбаванай зразумелай русафобіяй. Нацыянальная мяншыня зыдзе на шлях асобнае нацыі, малой нацыі Еўропы, з уласнай неблагой мастацкай культурай, з вядомымі на кантыненце іменамі яе творцаў. З адрозным ад усебеларускага лёсам, а перш за ўсё са спадчыннай нацыянальнай моваю.

Далейшае цывілізацыйнае развіццё Польшчы раздробніць гэту новую нацыю ў архіпелаг культурастваральных астраўкоў працягам на поўдзень ад сярэдзіны лініі рэчкі Супрасль і да кляшчэлеўскага выступу заходнепалескай паласы. Тэрыторыя гэта з памяркоўнымі агульнаэканамічнымі перспектывамі ды значнай колькасцю прыдатных дзеля сельскай гаспадаркі земляў, асабліва ў трохвугольніку Гайнаўка—Бельск—Нарва. Пры гэтым у навакольных мястэчках татальна дамінуе праваслаўнае насельніцтва, а ў гарадскіх цэнтрах Гайнаўка і Бельск уяўляе яно сабою блізу палову жыхароў. І хоць роднамоўя на вуліцах у іх не чуваць, але існуе прыхільны беларушчыне настрой з боку мяшчанскай публікі. Адваротная сітуацыя на поўначы ваяводства, між Супраслю і Бобраю: амаль паўсюдная абязлюджанасць у тых неўрадлівых ваколіцах і гэтак жа амаль стопрацэнтная рымска-каталіцкая манархэлігійнасць з польскім нацыяналістычным абліччам у Саколцы і Дуброве, у Кузніцы, якія хутка брыняюць у малыя гарады, усмоктваючы ў сябе ўсенька жывое з блізкага і далёкага ваколля. Фрагмент гістарычнае Гарадзеншчыны, ліцьвінскай.

Па ўсім відаць, што пракорам тут няцяжка быць: апошні, дадзены гісторыяй, шанц на дэрусіфікацыю Беларусі мінае і міне. Адыдзе ў нябыт пакаленне, якое яшчэ чула беларускую мову, насіла яе ў слыху сваім, у генетычнай памяці. Маладыя, выхаваныя ў рускай, будуць трактаваць беларускую як сімвал. Кшталтам чытачоў „Звязды": чытаюць беларускае, але не гавораць пабеларуску. Адсутнічае ў іх эмацыянальная патрэба ў тым. Яны і без **мовы** беларусы, патрыёты.

У Польшчы такі варыянт немагчымы, бо няма дзяржаўнасці. Страта мовы ў нас раўназначная са стратаю нацыянальнасці.

**Сакрат Яновіч**

*(Даклад быў зачытаны 5 кастрычніка 1996 г. на II Практычна-навуковай канферэнцыі „Культура і адукацыя беларускага замежжа" ў Менску.)*

# Першы Штурмовы Звяз

Набліжаюцца 55-ыя ўгодкі дэсанту Першага Штурмовага Звязу — беларускага дыверсійнага аддзелу, які перад пачаткам нямецка-савецкай вайны пачаў дзеяць супраць бальшавікоў у БССР.

Супрацоўніцтва беларусаў з нямецкай вайсковай разведкай (абвер) пачалося яшчэ ў 1920-х гадах. Па сведчанню Яўхіма Кіпеля, частка антысавецкіх паўстанцаў на пачатку 20-х гадоў перайшлі ў Польшчу з БССР, а адтуль у Нямеччыну. Немцы іх прынялі ды арганізавалі з іх беларускі аддзел абвера.

Напярэдадні нападу Нямеччыны на Польшчу на базе абвера каля Брэслаў (Вроцлаў) праходзіла падрыхтоўку беларуская дыверсійная група. Ініцыятарам гэтай акцыі мог быць праваднік беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіян Акінчыц, які прыбыў у Нямеччыну ў 1938 годзе. Добраахвотнікі вербаваліся сярод беларускіх студэнтаў. Мне вядомы два з іх: Сцяпан Гугель і Уладзімір Сянько. Першы закончыў Берлінскі універсітэт, другі — Пражскі.

За дзень да пачатку вайны Гугель і Сянько былі скінуты з нямецкага самалёта каля Кобрына, з задачай разведкі. У гэты час на Палессі пачалося антыпольскае паўстанне пад кіраўніцтвам былых грамадоўцаў і сяброў КПЗБ. Дэсантнікі ўвайшлі ў партызанскі аддзел Івана Тарасюка, галоўнага каменданта паўстанцаў, прадставіўшыся ўцекачамі ад мабілізацыі ў польскае войска. Тайна, праз радыёперадатчык, яны перадавалі абверу звесткі аб становішчы на Палессі, аб планах паўстанцаў ды аб іх адносінах да фашыстоўскай Нямеччыны. Пасля 17 верасня агенты абвера ўцякаюць за Буг, у Польшчу, працягваюць працаваць на нямецкую вайсковую разведку. С. Гугель памёр у 1981 годзе ў Бразіліі, а У. Сянько пасля вайны працаваў у разведцы бундэсвера.

Пасля заканчэння нямецка-польскай вайны, у 1940 годзе немцы пачалі вызваляць беларусаў з лагераў ваеннапалонных польскага войска. У першую чаргу звальняліся падафіцэры і афіцэры. Усім ім была прапанавана супрацоўніцтва з абверам. Немцы паабяцалі беларускім вайскоўцам, што яны будуць самыя вызваляць сваю Бацькаўшчыну. На працягу 1940—41 гг. у БССР перапраўляліся шматлікія разведачныя групы і агенты-адзіночкі, складзеныя з беларусаў. Найбольш вызначыліся тут Усевалад Родзька і Міхал Вітушка.

Быў сарганізаваны спецыяльны беларускі атрад, які атрымаў назву „Першага Штурмовага Звязу" (па прыкладзе колішняй „Першай Кадровай Кампаніі" Юзэфа Пілсудскага, якая стала пасля ядром польскай арміі). Сярод ініцыятараў стварэння гэтага падраздзялення быў кёндз Вінцэнт Гадлеўскі — заснавальнік Беларускай Незалежніцкай Партыі і Беларускага Народнага Фронту, які бачыў у ім пачатак беларускага войска. Непасрэдна камплектаваннем Звязу займаўся Вежан, былы афіцэр польскай арміі. Сярод добраахвотнікаў былі такія вядомыя беларускія патрыёты, як Мечыслаў Контаўт, Рыгор Зыбайла, Уладзімір Шавель, Альберт Асоўскі, Янка Гінько.

18 чэрвеня 1941 г. у раёне Сувалак „Першы Штурмовы Звяз" быў перакінуты ў БССР, у складзе 41 чалавека. Дыверсанты павінны былі распачаць дыверсійную дзейнасць на чыгунцы Стоўбцы — Баранавічы. Можна меркаваць, што з заданнем яны справіліся, бо шмат хто быў узнагароджаны немцамі жалезнымі крыжамі. Некаторыя ўдзельнікі Звязу загінулі, або трапілі ў рукі НКУС. Цікава, што сярод апошніх апынуўся і Браніслаў Валасэвіч, які быў падасланы ў атрад польскім падполлем.

Але спадзяванні беларускіх вайскоўцаў не спраўдзіліся. Берлін не даў дазволу на стварэнне беларускага войска. Гэта быў пачатак краху ілюзій... Хлопцы з „Першага Звязу" былі пераведзены ў распараджэнне Генеральнага камісарыяту Беларусі, які накіраваў іх узначальваць акруговыя камітэты Самапомачы або паліцыйныя фарміраванні. На сваіх пасадах яны спрабавалі праводзіць беларускую патрыятычную працу, што адразу пачалі забараняць немцы.

Тады маладыя патрыёты пачынаюць праводзіць актыўную падпольную дзейнасць. Яны арганізоўвалі падпольныя структуры БНП і нацыянальную партызанку. Архітэктар Альберт Асоўскі, удзельнік „Першага Штурмовага Звязу", быў высланы кіраўніцтвам БНП у Швецыю з заданнем наладжання сувязі з заходнімі саюзнікамі. Юрыст У. Шавель у 1942 годзе пачаў арганізацыю партызанкі БНП на Барысаўшчыне. Загінуў ад чэкісцкай кулі... Інжынер Р. Зыбайла стаў сябрам ЦК БНП, у 1945 г. быў расстраляны контрразведкай польскай арміі ген. Андэрса ў Марселі, бо тыя даведаліся, што ён — афіцэр Краёвай Абароны... Мечыслаў Контаўт, які кіраваў менскім паветам, быў забіты савецкімі партызанамі. Я. Гінько ўдзельнічаў у антысавецкай партызанцы, прайшоў бальшавіцкія лагеры і турмы, памёр у Маскве. Усевалад Родзька, праваднік БНП-БВА, павешаны бальшавікамі... А лёс генерала М. Вітушкі да гэтага часу не высветлены.

Захаваўся тэкст песні, якую спявалі „звязоўцы", ідучы на пэўную смерць, напісанай невядомым нам паэтам. Наперадзе было змаганне з бальшавіцкім акупантам, а зззаду чакаў свайго часу іншы акупант — фашысцкі...

**Сяргей Ёрш**

***Песня Першага Беларускага Штурмовага Звязу***

*Чутны гоман, там войска спявае,*
*Па садох вадгалоскі чуваць, —*
*Крывічанскі жаўнер прыбывае,*
*Каб сабе тут начлегам стаяць.*
*Гэта йдзе Першы звяз наш штурмовы,*
*Беларусь — родны край бараніць,*
*Хоча скінуць чужыя аковы,*
*У вольным краю каб вольнымі быць.*
*Людзі краскамі іх абкідаюць,*
*А дзяўчаты цалункі ім шлюць,*
*Яны з радасцяй гэта прымаюць, —*
*Так прыгожа праз сёлы ідуць.*
*Па гасподах гаворкі, цалункі,*
*Прысяганні... у вачох поўна слёз, —*
*Вось якія нам будуць жаданні,*
*Што гатуе нам будучы лёс?*
*Крывічанскае войска спявае,*
*У крывавы рыхтуецца бой,*
*А дзяўчына ў жаўнера пытае:*
*Чаму браць ён ня хоча з сабой?*

# Светлае беларускае настаўніцтва

**Школьныя гады выкоўваюць характар чалавека. Прывітыя настаўнікам каштоўнасці спадарожнічаюць яму праз усё далейшае жыццё. Ва ўмовах меншасці асвета набывае першаступеннае значэнне, бо ці ж можна адчуць сябе паўнацэнным чалавекам без узгадавання ў нацыянальным духу?** — гэткія, між іншым, словы знайшліся ў грамаце, якой былі ўзнагароджаны пераможцы „Конкурсу для настаўнікаў" (беларускай мовы). Уручэнне грамат і звязаных з імі ўзнагарод прайшло 1 кастрычніка г.г. у нашай рэдакцыі.

Рэдактар „Зоркі" (старонкі для дзяцей) Ганна Кандрацюк у 1995/96 навучальным годзе правяла „Конкурс для настаўнікаў" беларускай мовы. Пачаўся ён 1 лістапада мінулага года („Ніва" № 45) і цягнуўся да 25 мая гэтага года („Ніва" № 21) — ахапіў конкурс агулам 29 нумароў нашага тыднёвіка. Падлік вынікаў конкурсу правялі: Ганна Кандрацюк, Мірослава Лукша (ранейшая рэдактар „Зоркі") і аўтар гэтай інфармацыі (у якасці аб'ектыўнага старшыні конкурснай камісіі).

Ідэя конкурсу заключалася ў абуджэнні ў дзяцей усебаковай зацікаўленасці беларускай мовай. Дзеля гэтага на ніўскую старонку для дзяцей былі ўведзены новыя формы — крыжаванкі, конкурсы з узнагародамі. Паралельна праводзіліся і іншыя мерапрыемствы — „Творчыя сустрэчы «Зоркі»", супольнае з рэдактарам „Зоркі" адрэдагоўванне старонак для дзяцей. Як гэта практычна выглядала? Выглядала гэта так, што дзеці самі складалі беларускія крыжаванкі і дасылалі іх у рэдакцыю, а іхнія сябры з іншых школ рашалі гэтыя *задачкі* і дасылалі нам адказы. Самыя таленавітыя навучэнцы беларускай мовы пісалі вершы і апавяданні, а таксама і спрабоўвалі свае сілы ў мастацтве. Вялікую ролю адыгралі тут згаданыя „Творчыя сустрэчы «Зоркі»", на якія рэдактар Г. Кандрацюк запрашала асобы беларускага грамадскага жыцця Беласточчыны (Лену Глагоўскую, Лявона Тарасэвіча, Дарафея Фіёніка, Алега Латышонка, настаўніц беларускай мовы са школ).

Пры падліку вынікаў „Конкурсу для настаўнікаў" браліся пад увагу наступныя фактары: працэнт падпісчыкаў „Зоркі" („Нівы") у агульнай колькасці навучэнцаў беларускай мовы ў школе, працэнт карэспандэнтаў „Зоркі", лік пісем са школы. І так, самых выдатных вынікаў у гэтым супрацоўніцтве дасягнула шэсць школ:

1. Нарва (настаўніца Ніна Абрамюк);
2. Кленікі (настаўніца Вера Флярчук);
3. Бельск-Падляшскі № 3 (настаўніцы Валянціна Бабулевіч і Аліна Ваўранюк);
4. Новы Корнін (настаўніца Ніна Куптэль);
5. Махнатае (настаўніцы Анна Гаўрылюк і Зінаіда Сельвясюк);
6. Курашава (настаўніца Людміла Дзмітрук).

Камісія „Конкурсу для настаўнікаў" узнагародзіла настаўніц: **Ніну Абрамюк, Веру Фляpчук, Аліну Ваўранюк**, а спецыяльную ўзнагароду за творчае супрацоўніцтва з „Зоркай" і актыўны ўдзел у „Творчых сустрэчах" прысудзіла **Валянціне Бабулевіч**.

Спонсарамі „Конкурсу для настаўнікаў" былі: **Аляксандр Палескі, гурт „Белы Сон"** і наша рэдакцыя.

Інфармацыю пра конкурс завяршу рэфлексіяй агульнага характару. Праца настаўніка беларускай мовы не дацэньваецца ў нас, а сама яго асоба вельмі часта ўспрымаецца накшталт *ат, настаўнік беларускай мовы*. Мэта нашага конкурсу заключалася і ў тым, каб працу гэтых людзей заўважыць.

**Аляксандр Максімюк**

*Фота аўтара*



*Узнагароджаныя настаўніцы (злева): Ніна Абрамюк, Валянціна Бабулевіч, Ганна Кандрацюк (рэдактар „Зоркі"), Вера Флярчук, Аліна Ваўранюк з дачушкай Нінай.*

# Не-„белавежскі" зборнік

Скромны плён прынёс І Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, арганізаваны Праграмнай радай тыднёвіка „Ніва" і Беларускім саюзам. Сведчаць аб тым выбраныя творы, якія склалі зборнік „Словы ў лабірынтах".

Пачну з таго, што згаданага загалоўка я не разумею. У вершы Анелі Місяюк, адкуль ён узяты, ёсць „кружаць словы ў лабірынтах розуму", у поўнай згодзе з сітуацыйным зместам — „ты і я". Зместу зборніка вырваныя з кантэксту „словы ў лабірынтах" не адпавядаюць.

На жаль, невядома, хто даў такі загаловак, ды наогул, хто працаваў над кніжкай, бо нідзе ў ёй гэта не адзначана. Кніжыца сціплая, але саромецца ніхто за яе не мусіць.

Зборнік, згодна з катэгорыямі, у якіх праводзіўся конкурс, складаюць раздзелы: вучнёўская творчасць, творчасць ліцэістаў, творчасць дарослых, ды фальклорная творчасць (ці не лепш было б — народная?). Катэгорыя ўзросту не надта стасуецца да творчасці. Тым не менш для чытача якраз гэтага зборніка даволі важна з кім мае дачыненне. Проста таму, што плён конкурсу для „непрафесіяналаў", хоцькі-няхоцькі разглядаецца ўлічваючы перш за ўсё надзейнасць аўтараў. Беларусы ў Польшчы стварылі адметную літаратуру і хацелася б, каб яна развівалася. Тым часам відаць прызнакі стагнацыі. Вядомыя творцы ўдасканальваюць свой варштат, але выціскаць іх з Парнаса быццам бы ніхто і не збіраецца.

Я не крытык, дык ніякай „уплывалогіяй" займацца не буду. Ніякіх новых літаратурных з'яў у зборніку няма, ды і ніхто іх не чакаў. Як аматар літаратуры магу сказаць, што вельмі спадабаўся мне адзін твор. Гэта „Успаміны пра будучыню" Лукаша Сцепанюка, ліцэіста. Не шкада месца, каб працытаваць яго поўнасцю:

*Калі ем закрываю вочы*
*здымкі мае вісяць*
*а я сярод ночы*
*не бачу іх*
*я ем*
*Я калі ем слухаю*
*спяваюць птушкі*
*я вушы надстаўляю*
*добра іх чую*
*лепш ем*
*Калі ем думаю*
*таксама як заўсёды сонца*
*тады не вельмі паміраю*
*пачынаю плакаць*
*і ем*

Клас!

Вельмі „дарослыя" вершы вучаніцы Юстыны Каролька. На жаль, верш „Дом дзядулі", які адкрывае ўвесь зборнік, канчаецца надта ж ужо надуманым вобразам:

*мінулае*
*быццам белыя кветкі вясны*
*на замёрзлай шыбе*

Усё-такі магчыма, што пісання аб мінулым такім чынам я не разумею толькі таму, што я — гісторык.

Найбольш сталыя вершы Міколы Ваўранюка. Мой рэдакцыйны калега пачынаў супрацоўніцтва з „Нівай" з ліцэйскіх вершаў. Належыць ён пакаленню трыццацігодкаў, сярод якіх многа было таленавітых хлопцаў. Тым часам якраз гэтага пакалення ў нашай літаратуры цяпер не хапае. Што ж, апошнія гады былі вельмі бурлівымі, і не да вершаў хлопцам было. Часам толькі сёй-той прыпомніць аб сваім таленце, як цяпер Мікола.

Прозу звычайна лічаць пробным каменем сталасці літаратуры, ды і не дзіўна. Верш, нават добры, можа здарыцца кожнаму, хаця ніхто ад гэтага не становіцца паэтам. Каб пісаць прозу, трэба ўжо нейкай натугі.

Марк Рубашэўскі смела ўхапіўся за прозу. Яго „Фантазія" відавочна ўзнікла пад уплывам амерыканскіх фільмаў жаху. Якраз гэты ўплыў я здольны ўстанавіць — так я тых фільмаў ненавіджу. Тым не менш фантазія ў аўтара сапраўды ёсць, цярпення запісаць выдуманае хапіла. Такім чынам з'яўляецца надзея, што хтосьці прынамсі спрабуе несці сцяг беларускай тут прозы. А сітуацыя крытычная. Нават Сакрат, і той піша галоўным чынам па-польску, няхай сабе і добра.

Большасць аўтараў публікавала ўжо свае творы на старонках „Нівы". Такім чынам конкурс беларускай паэзіі і прозы не стаў нічым пераломным у выяўленні новых талентаў. Тым не менш, калі конкурс будзе праводзіцца рэгулярна, і рэгулярна будуць выходзіць зборнікі выбраных твораў, гэта будзе стымулам для творцаў. А стымул нашай літаратуры безумоўна патрэбны.

**Алег Латышонак**

## Новыя вершы

**Барыс Руско**

### След у памяці

У зборніку гадоў
кожная хвіліна густая,
незапісаных месцаў няма.
Жыццё не глядзіць на пагоду,
цячэ невядомае
наўпрасткі
і без прыпынкаў,
ад часу
да часу
ставіць сабе помнік
у памяці.

### Расплюшч вочы

Няма бяздоннай глыбі,
і гара — не кондару,
і прастор ля ног фантазіі,
і сусветы — браты сіямскія.
Расплюшч вочы —
і ачысціш
Аўгіеву канюшню;
толькі не пакідай па сабе
кастра,
згарыць душа.

### У пастцы

Жывыя вобразы ў кавалках.
Дык дзе я —
на скрыжаванні
дня і явы,
на краі,
паміж агнём і попелам,
паміж жыццём і смерцю,
ці на трампліне,
якога няма,
які ў поспеху будую?

### Каляіна

Клаксаны ў руху,
а ў каляіне ўсё.
Куды вядзе
спакуслівая ўсмешка,
і гэтае маўчанне без падстаў,
і гэтая адкрытасць пад замком?
Так, я самотны,
паміж адхонамі крутымі,
хоць людна тут,
падзеяў многа.
Хоць адно сонца,
дні і ночы розныя.
Каляіна бяжыць
у мой бок,
а я ў ёй
ад нараджэння.

### Калі сплю

Святла навошта толькі,
і начы.
І занавескі ў вокнах,
і вокны ўшпілены
ў прастору.
Гавораць мне
аб справах важных
і няважных,
і ў святынях
не сціхаюць званы,
а як маліцца мне,
калі я сплю.

### Цесна

Шукаю ціхую прыстань,
і слова ў падтрымку,
і позірку без маскі.
Пагода не мае значэння,
як усё, што вяртаецца
і шэпча ў вуха:
— Я тут.
Я ўсё ў дарозе,
і ўсюды не так,
і рэкі заплыткія,
і птушкі нявыспаны.
Месца не мае значэння,
каб толькі гарызонт
адсунуць далей,
каб больш убачыць
з акна вагоннага.
Губляюся ў здагадках,
і нейк зацесна мне ў жыцці,
усюды шчыліны —
праз іх пралезе ледзве цень.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Гісторыкі з Храбалоў

У Храбалы „Зорка" завітала пасля двухгадовага перапынку. Многае тут змянілася. Падраслі сімпатычныя дзеткі, пасталелі вучні старэйшых класаў, прыйшлі новыя першакласнікі. Зараз у школе дзве настаўніцы беларускай мовы: сп. Ірэна Яфімюк і сп. Марыя Лемеш. Паменшылася і колькасць дзяцей, якія ходзяць на беларускую мову. У школе 145 дзетак, з іх ліку 59 вывучаюць родную, беларускую мову.

— Усе беларусы вывучаюць гэты прадмет, — гаворыць пані дырэктар Валянціна Гаўрылюк.

З самых Кнаразоў аж трыццаць вучняў. Гэта дзякуючы ім у школе чуваць яшчэ падляшскі дыялект. Большасць школьнікаў складаюць палякі.

— Хаця дзеці вучацца ў адной школе, часам амаль нічога не ведаюць пра сваю „іншасць", — гаворыць спадарыня Ірэна Матус, настаўніца гісторыі.

На яе ўроках дзеці вельмі актыўныя. Вучні самі праводзяць размовы са старажыламі, сведкамі мінуўшчыны, збіраюць дакументы і ладзяць цікавыя выстаўкі. — Тады відаць, што лёс беларусаў і палякаў складаўся часам інакш, а часам падобна, — гаворыць І. Матус.



Аня Дзмітрук, сп. Ірэна Матус, Оля Гадун, Аня Сідарук і Аня Крышпінюк.

Па яе прапанове ў школе наладзілі праваслаўна-каталіцкія Каляды (зараз запрасілі і „Зорку").

Бо мы жывем побач сябе і нічога пра сябе не ведаем, — расказваюць пра мінулагоднія супольныя Каляды ў Храбалах. Многія ўпершыню ў жыцці ламаліся аплаткай, іншыя ўпершыню слухалі праваслаўных калядак і абрадаў.

У Храбалах узнікла вельмі цікавая прапанова. Для Вас, зразумела, дарагія сябры. Дзяўчаты: Оля Гадун, Аня Крышпінюк, Аня Сідарук, Аня Дзмітрук і пані Ірэна Матус будуць арганізаваць гістарычны куточак. Тут апынуцца і легенды родных мясцін, успаміны бабуль, бацькоў ці расказы цікавых людзей пра мінулае.

— Бо каб пазнаць агульную гісторыю, — кажа пані Ірэна Матус, — трэба вывучыць гісторыю малой айчыны. А яе складаюць дасведчанасць і ўспаміны нашых продкаў, аднавяскоўцаў ці суседзяў з іншых мясцін.

Варта адзначыць, што храбалоўскія гісторыкі запісваюць вынікі сваіх доследаў якраз **на беларускай мове!** Яны ведаюць, што яна — неад'емны элемент нашай гісторыі.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



Вучні IV і V класаў з настаўніцай беларускай мовы Марыяй Лемеш.

# Польска-беларуская крыжаванка № 42

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Kawałek / Październik | | | Mnich |
| Ojciec chrzestny / Rosa | | | |
| | | | |
| Sen / Jatka | | | |
| | | | |
| Ryż | | Kłomla | |
| | | | Sadza |
| Czas / Jan | | | |
| | | | |
| Ikra | | | |
| | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 38:** Лозунг: **Чарадзейная казка**

Узнагароды — прыгожыя аўтаручкі — выйгралі: **Ірэк Абрамюк** з Нарвы, **Марцін Карпюк** з Вэрстока, **Івона Малашэўская** са Старога Корніна. Віншуем!

# Жолуд і каштан

***(казка)***

На узлеску ранкам сінім,
Пры зялёнай пры даліне
У траве ляжаў каштан,
Важны, лысы, быццам пан,
Грэў сваё на сонцы шчокі,
Пазіраў на дуб высокі,
Дзе віселі жалуды,
Кожны бледны і худы,
І над імі у цішы
Насміхаўся ад душы.

Раптам з дуба ад галінкі
Ажно з самае вяршынкі
Жолуд ціха адарваўся,
Размахнуўся, разагнаўся
І каштану незнарок
Проста ўрэзаўся у бок.

— Як ты смееў, — каштан гаворыць, —
Турбаваць мяне не ў пору
На маёй уласнай дачы,
Блеклы жолудзе, лядачы!
Бачыш, я адпачываю,
Я на сонцы загараю.
І гаворачы ўжо шчыра,
Грубіян ты і задзіра,
Ты нікчэмны, ты паганы —
Не дастойны ты каштана!
— Не такі ты важны пан,
Хоць і тоўсты ты, каштан, —
Жолуд кажа. — Дай рассудзім,
Хто карысны болей людзям.
Я хоць блеклы, нецікавы,
Ды з мяне гатовяць каву.
Любяць каву ўсе на свеце,
І дарослыя, і дзеці.
А з цябе карысць якая?
Так і спрэеш тут ля гаю.
Спрэчку гэту раз у леце
Ідучы пачулі дзеці,
Што насенне сабіралі
І у торбачкі складалі.
У партфеліку у Мішкі
Не змяшчаліся ўжо шышкі,
А у кошыку Святланы
Ўсё каштаны ды каштаны.
Жалуды у торбе Галі.
Дзе іх столькі назбіралі?
Кліча Галя Мішу, Віцю:
— У траве каштан, глядзіце,
Я заўважыла адразу, —
Хай ляжыць у торбе разам.

**Ніна Тарас**

# Мая паездка ў Холм

21 верасня я і некалькі асоб з маёй сям'і выраішылі наведаць майго старэйшага брата, айца Яна Куліка, жыхара Холма.

З увагі на тое, што было свята Нараджэння Прачыстай Дзевы Марыі, мы пайшлі ў царкву. У той час гасцяваў там хор з Украіны. Людзі плакалі, калі пачулі ягоны прыгожы спеў. Пасля службы, у час абеду госці пра многае гаварылі, а Марцін, сын маёй старэйшай сястры, катаўся на роліках, якія атрымаў у падарунку ад святара і матушкі.

Назаўтра мы з братам і татам наведалі царкву ва Угорску. Гэта невялікая вёска ля польска-ўкраінскай мяжы. Здзівіла мяне, што там так мала вернікаў. Пазней я даведалася, што ў Холмскім ваяводстве пражывае невялікая група праваслаўных. Пасля мы выраішылі паглядзець горад Холм. Найбольшае ўражанне зрабілі на мяне „Крэйдавыя падзямеллі". Там калісьці капалі крэйду. Мы ішлі доўга цёмнымі тунелямі, а вёў нас экскурсавод, які дакладна расказаў нам гісторыю крэйдавай шахты. У пэўным моманце наведалі мы адну з пячор, якіх там многа. Легенда гаворыць, што гэта зачараванае месца. Там можа споўніцца жаданне, калі кранешся сцяны рукой і згасіш ліхтарык. Так мы і зрабілі. Не прыдумалі яшчэ мы жадання, калі паявіўся „дух", які даўно ўжо там жыве і многа памятае. Расказаў ён адкуль узяўся, але мы ведалі, што гэта няпраўда. Чатырохгадовы Марцін так перапалохаўся яго, што плакаў нават тады, калі „дух" адышоў, бо са старасці страціў магчымасць „знікання". Тунелямі дайшлі мы да выхаду. Калі вярнуліся, трэба было развітацца з айцом Янам і матушкай Барбарай. Пакуль апынуліся мы ў Тафілаўцах, пераехалі амаль 104 мясцовасці. Найбольшае ўражанне зрабіла на мне рака Буг. Думаю, што варта паехаць у Холм.

**Ірэна Кулік**
**вучаніца VIII класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

Талон „Зоркі" № 42
20.10.1996



*Дзеці з Ласінкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Мае канікулы

На канікулах я чытала вельмі многа кніжак. Разам з іх галоўнымі героямі вандравала я па гарачым пяску пустыні, прабівалася праз густы, страшны, трапічны лес. Я сустракала дзікія, драпежныя звяры.

У жніўні я была на сапраўднай экскурсіі ў сталіцы Польшчы — Варшаве. Я хадзіла па вузкіх вулічках Старога Мяста, равесніка Варшавы, якая сем стагоддзяў раней з глухой вёскі каля броду пачала станавіцца горадам на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў. Камяні старых дамоў дыхалі гісторыяй. Я спынілася каля помнікаў вялікаму астраному Каперніку і паэту Міцкевічу. У час экскурсіі ў сталіцу здзейснілася мая вялікая мара: я плавала суднам па Вісле. Вельмі мне смакавала варшаўскае марожанае.

У ліпені я збірала трускалкі і парэчкі. Многа разоў хадзіла таксама ў лес. Вельмі люблю шукаць грыбы. Кожны баравік, масляк ці лісічка вельмі мяне цешаць.

Сёлетнія канікулы былі халодныя. Вельмі мала было сонечных і цёплых дзён. Часта дуў вецер ды ішоў дождж. Над рэчкамі і возерамі пераважна сядзелі цярплівыя рыбакі. Ахвотных купацца было нямнога. Я таксама пабаялася халоднай вады.

Думаю, што мае сёлетнія канікулы былі ўдалыя.

**Аня АЎСЯНЮК**
**кл. VI „е" бельскай „тройкі"**

# Вершы Віктара Шведа

### Гультай

Настаўнік сустрэў вучня маці,
Што пляткавала ля хаты:
— Сынок ваш напэўна год страціць,
Вучыцца зноў будзе ў пятым.

— А ці няма ўжо надзеі?
Мо неяк прапхнецца Данілу?
— Усё, чаго сын ваш не ўмее,
Двум вучням напэўна хапіла б.

### Навошта школы?

Тату пытаецца Мікола:
— Скажы ты мне, як мае быць,
Навошта нам будуюць школы,
Калі не любім там хадзіць?

— Школы патрэбны безумоўна,
Яны ж ратунак маладым,
Каб не стацца беспрацоўным
Ужо ў дзіцячыя гады.

### Тэлефільм

Запытала Бася
У школе Рыгора:
— Як жа падабаўся
Табе фільм учора?

— Фільм такі ж як кніжка,
тут адна праграма.
Задрамаў я крышку
У месцы тым самым.

Мікола ГАЙДУК

# Аб нашым мінулым

**9. Берасцейская зямля**

Вялікі абшар па абодвух берагах сярэдняга цячэння ракі Буга гуртаваўся пры сваіх галоўных гарадах Бярэсці і Дарагічыне. Гэтая самая заходняя частка Тураўскага княства рана стала называцца Берасцейскай зямлёй або Берасцейшчынай. На поўначы яна межавала з Гарадзеншчынай, на ўсходзе — з Пінشчынай, на поўдні — з Валынню, на захадзе — з Малапольшчай і Мазоўшам.

Берасцейшчына — гэта неад'емная частка беларускага Палесся, яна актыўна ўдзельнічала ва ўтварэнні беларускага народа. Тут спрадвечна жылі дрыгавічы, а на пагранічччы ўперамешку з імі сяліліся: на поўначы — яцвягі і прусы, на захадзе — мазаўшане, на поўдні — валыняне.

На Берасцейшчыне даволі ўраджайныя землі, многа лесу і іншай сыравіны для розных рамёстваў. Таму яна была даволі густа заселена; развівалася сельская гаспадарка, рамёствы, гандаль. Праз яе здаўна праходзілі важныя міжнародныя рачныя шляхі па Бугу, Нарве і Вісле ў Балтыйскае мора, а па Мухаўцы з переваlокай у Прыпяць і далей па Дняпры ў Чорнае мора. Праз гэтую зямлю ішлі гасцінцы ў розныя бліжэйшыя і далейшыя гарады, княствы і краіны.

Тут рана паўставалі ўмацаваныя паселішчы, пераважна пры гандлёвых шляхах, каб ахоўваць падарожных і даваць ім прытулак. Па рацэ Бугу ўзніклі Нівіцы (сённяшні Няміраў), Мельнік, Дарагічын, Гарадок, Нур. Пры гасцінцах будаваліся пераважна каля бродаў цераз рэкі і рэчкі: на Нурцы паўсталі Боцькі і Бранск, на Белай — Бельск, на Нарве — Нарва, Сураж, на Лясной — Камянец, на Кобрынцы — Кобрын. Павелічэнню ранейшых і заснаванню новых умацаваных паселішчаў паспрыяў паход у 983 г. вялікага князя кіеўскага Уладзіміра на яцвягаў, якія тады жылі на поўнач ад ракі Бабра (сённяшняй Бебжы), „і перамог яцвягаў і ўзяў зямлю іх" — падае пра Уладзіміра летапісец.

Археолагі, вывучаючы берасцейскае гарадзішча, сцвердзілі, што горад быў заснаваны дрыгавічамі каля 1000-ага года н.э. Гэта быў важны вайсковы, гаспадарчы і культурны асяродак. Былі знойдзены прылады працы для выплаўкі і абробкі жалеза, а таксама такія вырабы з яго, якія вымагаюць высокага майстэрства. Працавалі тут таксама ўмелыя ювеліры і майстры па вырэзванні з косці і рогаў жывёлін вельмі прыгожых рэчаў. Гарбары і шаўцы выраблялі розныя гатункі скуры і шылі ладны, моцны абутак. Многа знойдзеных верацёнаў і іншых прыладаў ткацтва і рэштак разнастайных тканін паказвае, што ўсе жыхаркі Бярэсця займаліся вырабам тканін і пошывам вопраткі. Шматлікія ганчары і бондары выраблялі посуд. Берасцяне таксама займаліся сельскай гаспадаркай, жывёлагадоўляй, рыбацтвам, бортніцтвам.

Пра высокі культурны ўзровень берасцян сведчаць знойдзеныя археолагамі: грэбень з выразаным на ім кірыліцкім алфавітам, прылады для пісьма і малявання, засцежкі да кніг, шматлікія аздобы, дзіцячыя забаўкі. Асабліва многа знойдзена праваслаўных нацельных крыжыкаў, частак іконак і царкоўнага абсталявання, а гэта сведчыць, што берасцяне рана сталі праваслаўнымі хрысціянамі.

Бярэсце было моцнай крэпасцю. Разбіты князем Яраславам Мудрым, схаваўся ў ёй у 1019 г. князь Святаполк з рэшткамі дружыны. Крэпасць у 1020 г. захапіў польскі князь Баляслаў Храбры, але ў 1044 г. Яраслаў Мудры вызваліў Бярэсце і Берасцейшчыну ад польскай улады.

У XI ст. Берасцейшчына належала да Тураўскага княства, потым да Пінскага, а з сярэдзіны XII ст. падпала пад уладу валынскіх князёў.

**Практыкаванні.**

*1. Знайдзі на карце Бярэсце і прыблізна вызнач межы Берасцейскай зямлі.*
*2. Хто жыў на Берасцейшчыне?*
*3. Якія рачныя шляхі праходзілі праз Бярэсце?*
*4. Калі прыблізна было заснавана Бярэсце?*
*5. Чым займаліся жыхары старажытнага Бярэсця?*
*6. Што сведчыць пра высокі культурны ўзровень колішніх берасцян?*
*7. Якія ваенныя падзеі ў XI ст. звязаны з Бярэсцем?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

Берасцейская зямля — гэта натуральны працяг ... ..., яна ўдзельнічала ва ўтварэнні ... ... . Праз Берасцейшчыну пралягалі міжнародныя рачныя шляхі па ... , ... і ... ў ... мора, а па ... , ... і ... у ... мора. Археолагі на падставе знаходак сцвердзілі, што Бярэсце ў ... годзе захапіў... ... ... ..., але ў ... годзе Бярэсце і ... вызваліў ... ... ... ... . З сярэдзіны ... стагоддзя Берасцейшчына падпала пад уладу... князёў.

# Хомкава жонка

*(беларуская жартоўная казка)*

Быў сабе Хомка і была ў яго жонка-гультайка. Пайшла яна аднойчы жыта жаць. Пажала-пажала ды спаць прылегла. А муж яе чакае, дачакацца не можа. Рашыў ён у поле схадзіць, жонку дамоў паклікаць. Зайшоў туды і бачыць, што жонка соладка храпе, жыта не жне. Падумаў Хомка, зняў з жонкі вопратку, вымазаў яе дзёгцем, пер'ем абсыпаў, забраў адзежу і дамоў вярнуўся. Сам сабе хустку завязаў, надзеў жаночы андарак і ўзяўся бліны пячы.

Жонка тым часам прачнулася, сама сябе не пазнала.

— Ці я Хомкава жонка, ці гэта сон, ці ява? — дзівавалася кабета.

Пайшла яна ў вёску, ды гукае:

— Гу-гу-гу! Не так ішла, як іду!

Зайшла да сябе пад акно і пытае:

— Хомка, Хомка, ці дома твая жонка?

А ён кажа:

— Дома, дома, бліны пячэ!

— Пэўна я не Хомкава буду, — падумала жанчына і пачала хаты лічыць!

— Гэта Сямён, а гэта Халімон, а гэта мой двор! Падышла яна яшчэ раз пад тое акно і пытаецца:

— Хомка, Хомка! Ці дома твая жонка?

— Дома, дома, блінцы смачныя пячэ!

— Пэўна я не Хомкава жонка, — падумала яна і пайшла зноў свайго двара шукаць. Ідзе і зноў гукае:

— Гу-гу-гу! Не так ішла, як іду!

Насустрач ёй ішлі зладзеі. Няслі яны скрыню з золатам і вельмі ўсяго баяліся. Убачылі бабу памазаную дзёгцем і абклееную пер'ем, падумалі — пачвара! Ад спуду кінулі тую скрыню з грашыма ды далі драла. А мужык усё тое бачыў. Выбег з хаты і кажа:

— Годзе ўжо табе бадзяцца. Хадзі любка, бліноў смачных напёк.

— То ўсё ж Хомкава буду! — падумала радасна жанчына.

Ад тае пары яна ўжо не засынала ў баразне. За грошы, што пакінулі зладзеі, зажылі Хомкавыя прыпяваючы. І парабкаў сваіх ужо мелі. А тыя зладзеі і сёння расказваюць сваім унукам пра страшную з'яву.

— Добра, што мы тады ўцяклі! — успамінаюць яны.



*Восень у гаспадарцы.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

Максім Танк

# Дзённікі

*(фрагменты)*

## 1979

**3.I.** Дома сцюдзёна, тэмпература не падымаецца вышэй 18°С. Дзень і ноч палім газ. Гарадская гаспадарка аказалася зусім непадрыхтаванай да такой суровай зімы. Нават вуліцы апусцелі. Прыйшла „Литературная газета" з маёй перадавіцай. Званіла з Аксакаўшчыны К. Шавялёва. Запрашала ў госці. У яе распараджэнні машына ЦК. Відаць, не змагу паехаць, бо трэба на Камароўцы купіць палыну, напарыць і спрабаваць ім выгнаць сваю хваробу.

А мароз не спадае. З коміна электрастанцыі вецер гоніць хмару дыму. Відаць, яшчэ доўга прыйдзецца памярзаць, бо і на двары палопалі ацяпляльныя трубы. Асабліва цяжкая сітуацыя ў дамах, у якіх батарэі ўмураваны ў сцены. І якому ідыёту прыйшло ў галаву, у нашых кліматычных умовах, гэта рабіць.

Захварэў Уладзімір Караткевіч. У выдавецтве на дзесяць лістоў скарацілі яго двухтомнік. Трэба будзе пагаварыць з А. П. Петрашкевічам, папрасіць, каб памог адваяваць гэтыя дзесяць аркушаў, бо становішча ў У. Караткевіча крызіснае: хворы, нідзе не працуе.

Званіў Генеральны консул Польскай Народнай Рэспублікі Мар'ян Дрэўняк. Хоча сустрэцца з беларускімі пісьменнікамі.

**8.I.** З задавальненнем чытаю на беларускай мове Байрана, які аказаў вялікі ўплыў на паэзію XX стагоддзя, на творчасць Пушкіна, Лермантава, Славацкага, Міцкевіча. Цікава, што ён у самой Англіі не быў такім папулярным, як у нас. Відаць, тут значную ролю адыгралі і яго палітычныя погляды, і ўдзел у вызваленчай барацьбе грэкаў.

Адразу атрымаў некалькі анкет ад розных часопісаў, тэлебачання, літаратурных даследчкаў. Сапраўдная эпоха анкетаманіі.

Снілася мая Пількаўшчына. Стаю каля старой сасны-пастаўні, якую даўно спілавалі на вал для ветрака, і чакаю са стрэльбай, узнятага загоншчыкамі, кабана. Брэх сабак усё набліжаецца і набліжаецца. Вось ён ужо бяжыць праз хмызнякі. Ускідваю стрэльбу — асечка. Зноў прыцэльваюся і бачу, як пасля выстралу кабан валіцца з ног.

**11.I.** Званілі старыя ветэраны, каб Саюз пісьменнікаў пахадайнічаў аб павелічэнні пенсіі жонцы Змітрака Бядулі. Зараз яна атрымлівае 65 рублёў у месяц.

Чытаю. У паэзіі — суцэльны гладкапіс. А яна павінна быць гаркаватай, таршаватай, і непадатлівай на разрыў.

Нарэшце — адліга.

**14.I.** Накупляў розных лекавых траў. Летам трэба будзе самому заняцца іх зборам. У „Правде" — два вельмі слабыя вершы Петруся Броўкі. Сяджу за карэктурай пятага тома збору сваіх твораў.

Сустрэў Веру з Дзянiскам. — Ну як у школе? — пытаю. — Добра, толькі трэба сядзець, як загіпсаванаму. А калі сядзіш ціха, настаўніца не заўважае. Вось і прыношу па паводзінах то чацвёркі, то тройкі.

Пачаўся перапіс насельніцтва.

**18.I.** Быў на пахаванні Алеся Якімовіча. Страшэнна цяжкое ўражанне. Толькі некалькі дзён таму мы з ім гутарылі аб яго апошняй аповесці для дзяцей — аповесці пра К. Каліноўскага.

Тэлеграма: „Калгаснікі калгаса «Маяк» Ашмянскага раёна аднагалосна вылучылі вас кандыдатам у дэпутаты Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР дзесятага склікання". Просяць даць згоду балаціравацца па Ашмянскай акрузе № 92.

**20.I.** Прачытаў цікавыя ўспаміны С. Анісава, у якіх піша пра нашу сустрэчу з ім у Вільні ў 1932 г.

На процілеглай старане вуліцы ўспыхнуў пажар. Полымя ахапіла амаль увесь другі паверх. Добра, што ўдалося пажарнікам яго пагасіць. Заходзіла Аля Кузюковіч. Расказвала пра сваю паездку ў Польшчу.

Здаецца, Норвід сказаў, што пісьменнікаў судзяць іх творы. А ў нас — каму толькі ўздумаецца. Пераклаў некалькі вершаў Ч. Курыямы. Трэба будзе падрыхтаваць падборку з польскай паэзіі, бо, здаецца, намячаюцца ў нас Дні польскай культуры. Самы небяспечны перыяд у жыцці мастака — перыяд задавальнення сабой. Прыехала Рэната Шыманская. Аказваецца, перакладчыкам Сіланэ („Фантамара") быў яе бацька, літаратурны псеўданім якога Людвік Савіцкі. Гэты раман меў у свой час шумную славу. Купіў я яго ў 1938 г. у адной з віленскіх кнігарняў. Ён нейкім цудам і сёння захаваўся ў маёй дамашняй бібліятэцы.

***(працяг будзе)***

# Роздумы з нагоды...

21 верасня па I праграме Польскага радыё амаль увесь дзень вялася трансляцыя з Гродна. Прысвечаная была яна адкрыццю новай польскай школы ў гэтым горадзе.

І сапраўды, гэты суботні дзень мог быць вялікім святам для тых, хто здзяйсняў пабудову самай — як гаварылася — прыгожай ды і ўвогуле самай „най-най", пастаўленай на працягу аднаго года на сабраных сярод грамадзян Польшчы сродкі, „кузні" новага пакалення... Слухаючы перадачу нельга было не падзяліць захаплення школай будучых яе вучняў. Чулася хваляванне таксама тых, каму прыйдзецца працаваць у новай школе. Моцна перажывалі ўрачыстасць і тыя, хто ўклаў грошы, працу і сэрца ў пабудову. Вядома, кожны поспех у душы чалавека выклікае задавальненне. Дасягненні радуюць і абуджаюць прагу імкнуцца да новых поспехаў. Рэалізатары гродзенскай пабудовы ўжо сёння мараць аб такіх школах у Менску, у Літве, на Украіне... Дай Бог ім сілы і сродкаў, каб здолелі здзейсніць свае мары і дай ім Бог, каб у збудаваных школах выхоўваліся дзеці на людзей высакамерна чалавечых! Бо наша эпоха, на жаль, паводле грамадскасць людзьмі маральна знявечанымі...

„Dziwny jest ten świat" — спявае Чэслаў Немэн. А словы гэтай песні ўвесь час гучалі ў маіх вушах, калі я слухаў перадачу з Гродна. Бо ці ж не „дзіўна", што беларускае грамадства, якое дапамагае будаваць у сябе палякам школы, сваім жа дзеткам яно няздольнае гарантаваць нават навучання роднай мовы. Польшча праяўляе схільнасць да велізарных ахвяраванняў. Дапамагае пацярпеўшым у войнах і ў стыхійных бедствах. А вось у дачыненні да сваёй грамадскасці характарызуецца нейкай бяздарнасцю ці бяссіллем. У адносінах да праяваў нацыяналізму, неталерантнасці, злачынстваў, гадамі не знаходзіць выхаду. Раней ПАРП абяцала ператварыць грамадзян у камуністаў... Сёння касцёл вырашыў вызначаць маральныя нормы грамадству... А дэмаралізацыя надалей ахоплівае ўсё шырэйшыя абсягі жыцця нашага... Можа тут вінавата празмернасць свабоды? Свабода „лепшых" зняволівае чэрнь... Некалі ў Беласточчыне на вуліцы беларуская мова нікога не здзіўляла. Сёння... „Teraz Polska!" — вядома, толькі для палякаў. І красамоўна такі лозунг „лікуе", напрыклад, на сценах белліцэя...

Ці на супрацьдзеянне адмоўным праявам польская дзяржава „сродкаў" пашукаць ніколі не здолее?

**Анатоль Маўчун**

*Фота Міколы Ваўранюка*




# Славянскі цэнтр у цэнтры Варшавы

Калі б вам давялося быць у Варшаве, і ў вас была б гадзіна вольнага часу, дык самае лепшае, што можна было б зрабіць, гэта перайсці праз Лазенкаўскі парк, дзе заўжды ціха, ёсць возера з каляровымі карпамі, каралеўскі замак і сапраўдныя старажытнарымскія калоны, а па алеях ходзяць і „спяваюць" паўліны, на вуліцу Гагарына, 15.

Тут беларуса будзе чакаць сапраўдны сюрпрыз. У гэтым доме, на першым паверсе, размясціўся Цэнтр газет і часопісаў (і кніг) славянскіх.

— Добры дзень, — так, па-беларуску, у цэнтры Варшавы, вас сустрэне добры і мілы чалавек, старшыня Цэнтра, спадар Ян Заброцкі. Ён ветліва вам пакажа ўсе навінкі і прапануе паслухаць беларускую музыку. У гэты момант адчуеш сябе, як быццам у нейкім цудоўным свеце і перад вачамі ўзнікаюць вобразы з тых часоў, калі:

*Гаварыць па-беларуску гэта модна,*
*Мовы маці, кажуць, не забыць.*
*Для мяне ж гэта не модна, толькі родна,*
*Гэта так, як піць, як есць, як жыць.*

*(З кнігі Юркі Генюша „З маёй званіцы", радкі напісаны Ларысай Генюш.)*

Няўжо праўда, што было калісьці модна гаварыць па-беларуску? А чаму ж не, калі Адам Міцкевіч пісаў, што беларуская мова — гэта чысцейшы прыклад славянскае мовы.

Ян Заброцкі — беларус з Беласточчыны, у старыя часы працаваў са славянскімі кніжкамі ў Асяродку распаўсюджвання выданняў Польскай акадэміі навук. Зрабіў некалькі выставак польскіх кніг на Беларусі, і наадварот — беларускіх у Польшчы. У 1992 годзе заўважыў, што з польскіх крамаў раптам пачалі знікаць славянскія кніжкі. Тады менавіта і ўзнікла думка ў Яна Заброцкага — зрабіць такі Цэнтр, у які маглі б прыйсці і беларусы, і іншыя, якія жывуць у Польшчы, і хацелі б чытаць і заказваць патрэбныя кнігі, або выпісаць газеты.

У Цэнтры, сярод газет і часопісаў ёсць такія, якія выдаюць польскія беларусы — „Ніва" і „Часопіс". Альбо вельмі вядомы сярод праваслаўных „Przegląd Prawosławny". Можна пабачыць нават і з Амерыкі — „Беларускі дайджэст", „Беларус".

Але ж найбольшую цікавасць выклікаюць кнігі польскіх беларусаў. Вельмі прыкметная сярод іх — „Лёс аднаго пакалення". Гэта ўспаміны людзей, якія жылі ў Заходняй Беларусі. Жыццё аўтараў кнігі — К. Сідаровіча, Ю. Пракаповіча, Я. Жамойціна, В. Ярмалковіча — не толькі было звязана з Беларуссю, але яны ніколі не саромеліся называцца беларусамі. Гэтая кніга — аб тых часах і тых людзях, якія ў вайну стварылі Саюз беларускай моладзі, актыўна ўдзельнічалі ў руху беларускай моладзі за незалежнасць. „Лёс аднаго пакалення" — іншы погляд на быццам бы вядомыя рэчы і падзеі, якія ў нас заўжды падаваліся аднабакова.

— На жаль, беларусам, якія жывуць у Польшчы, усё менш хочацца вучыць сваіх дзяцей чытаць кніжкі па-беларуску. Прычын таму шмат. Аднак галоўная — яны не вераць, што яна ім калінебудзь спатрэбіцца, — гаворыць спадар Заброцкі, і паказвае цудоўныя „Białoruskie Zeszyty Historyczne", якія выдае Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку.

— Аднак жа, шмат кніг я дасылаю маім сябрам і добрым знаёмым у Дрэздэнскі універсітэт у Нямеччыну, у Берн у Швейцарыю, Швецыю, у многія вялікія бібліятэкі Еўропы. Там сапраўды праяўляюць інтарэс да беларускай мовы.

Ужо трэба было ісці, аднак так прыемна было знаходзіцца ў Цэнтры і адчуваць сябе, як быццам бы ў адроджанай Радзіме.

**Алена Стралкова**
**карэспандэнт з Мінска**

# У Гайнаўцы — Еўропа

**— Усе мы ведаем, як патрэбны для здароўя палякаў такога тыпу інвестыцыі, — сказаў падчас урачыстага адкрыцця шпіталя ў Гайнаўцы ВЛАДЗІМЕЖ ЦІМАШЭВІЧ, — асабліва ў гэтым рэгіёне, гадамі забытым, запушчаным. Нягледзячы на прыгажосць прыроды, умовы жыцця тут — цяжкія.**

Хаця новая гайнаўская бальніца працуе ўжо з пачатку верасня, аднак афіцыйна адкрылі яе 4 кастрычніка. На дарожных знаках і электрычных слупах ля перакрыжаванняў вуліц віселі стрэлкі з надпісам: „Шпіталь". Няйначай, з думкай пра запрошаных гасцей, якія на працягу трынаццаці гадоў дапамагалі пабудове. Прыехалі на ўрачыстасць, апрача прэм'ера, праваслаўны мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы **Васілій**, каталіцкі біскуп Драгічынскай курыі **Антоні Дыдыч**, беластоцкі ваявода **Анджэй Гаеўскі**, рэктар Беластоцкай медыцынскай акадэміі праф. **Ян Гурскі**, пасол Сейма **Сяргей Плева**, славы тэарэтычнай і практычнай медыцыны. Віншавальныя лісты прыслалі — асабіста былі якраз за мяжою — міністры ўнутраных спраў **Збігнеў Семянткоўскі** і здароўя **Яцэк Жахоўскі**. Усім прысутным і непрысутным дабрадзеям горача дзякавала бурмістр Гайнаўкі **Ядвіга Рудзінская-Патэюк**:



Перарэзвае стужку бурмістр Ядвіга Рудзінская-Патэюк. Побач яе — ваявода Анджэй Гаеўскі і прэм'ер Владзімеж Цімашэвіч.

— Толькі сёлета на шпіталь пайшло больш грошай, чымсьці ў гадавым бюджэце нашага горада. Нават калі б зладзіліся ўсе дзевяць гмінаў у раёне, і так не хапіла б у нас сродкаў ні на заканчэнне інвестыцыі, ані на ўтрыманне гэтага аб'екта. Таму мы ўдзячныя ваяводскім і цэнтральным уладам, асабліва пану Цімашэвічу, які ўжо сем гадоў, спачатку як пасол Беластоцкай зямлі, а пазней — высокі дзяржаўны чын, цікавіцца гайнаўскім шпіталем. Таму я смела магу сказаць, што ён — наш прэм'ер.

Гэтыя словы сустрэліся бурнымі воплескамі. Дзякаваў уладам і мітрапаліт Васілій за тое, што на Беласточчыне скончылася „глухая восень", што гэтая зямля можа развівацца, тутэйшыя людзі — вучыцца і прыносіць карысць усёй краіне.

— Я з'яўляюся жывым фрагментам гісторыі, ад першага года І сусветнай вайны, — гаварыў уладыка, — і добра памятаю, якая была ў нас калісь „медыцына". Не было ні лекараў, ні лякарстваў, хворым часта толькі цудам вярталася здароўе. Цяпер у кожнай гміннай мясцовасці і ў большых вёсках ёсць асяродкі здароўя, людзі маюць патрэбную медычную апеку. Дзякуй Богу за дапамогу людзям, якія клапоцяцца аб нашай айчыне, аб нас усіх. Прашу ласкі Божай для гэтага месца, для лекараў і медсясцёр, у чые рукі аддаем сябе ў хвіліны хваробы.



У іх рукі аддаем сябе ў хвіліне хваробы.



Шпіталь пасвяцілі: мітрапаліт Васілій (у цэнтры), біскуп Антоні Дыдыч (справа) і благачынны Гайнаўскага дэканата а. Міхал Негярэвіч.

Біскуп Антоні Дыдыч, які падарыў шпіталю кардыяграфічную апаратуру, прывёў евангельскія словы пра тое, што чалавека найлепш відаць у цярпенні.

— Я прашу, — казаў біскуп, — каб лекары памяталі, што яны не толькі даюць пацыентам, але і бяруць ад іх, вучацца чалавечнасці. Тады ў гэтым месцы будзе сужыццё, гармонія і атмасфера сапраўднай міласэрнасці.

* * *

Гайнаўскі шпіталь на вуліцы Ліповай — практычна пад самай сцяной Белавежскай пушчы — пачалі будаваць у 1983 годзе. На працягу доўгай гісторыі пабудовы былі моманты сумненняў, ці наогул яна кончыцца. Работу некалькі разоў перапынялі і толькі два апошнія гады ішла яна нармальнымі тэмпамі.

Атрымаўся сапраўдны гігант, кубатурай у 101 тысячу метраў і плошчай у 22 тысячы квадратных метраў. За раз можа прабываць там каля трохсот пацыентаў. Для іх патрэб працуюць хірургічнае, артапедычнае, кардыяграфічнае, тэрапеўтычнае, гінекалагічна-акушэрскае і некалькі іншых аддзяленняў. Аперацыйны блок, паводле выказвання пані бурмістр, гэта максімум бяспекі. На месцы рэгістрацыя і аптэка, адным словам — усё дзеля выгады пацыентаў.

— За гады будовы некаторыя тэхнічныя развязкі крыху ўстарэлі, — казала на ўрачыстасці бурмістр Ядвіга Рудзінская-Патэюк, — шкада таксама, што не ўдалося перанесці сюды інфекцыйнага аддзялення, але сёння трэба цешыцца тым, што зроблена.

Як сказаў адзін з медыкаў, гайнаўскі шпіталь на добрым сярэднім еўрапейскім узроўні. Калі хто ведае ранейшыя ўмовы — драўляныя баракі ў рассыпцы, — дык слушна палічыць гэтыя словы вялікім кампліментам.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*




Каб госці не заблудзілі.

## Новая бібліяграфія

Днямі выйшла з друку новая бібліяграфічная кніжка а. Рыгора Сасны. Называецца яна **Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Suplement III**. У кніжцы праводзіцца рэгістрацыя матэрыялаў змешчаных у выданнях Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы. Бібліяграфія ахоплівае наступныя выдавецкія мерапрыемствы праваслаўнай моладзі: „Інфармацыйны бюлетэнь Гуртка праваслаўных тэолагаў" (гады 1983-1992), „Інфармацыйны лісток" (1984; 1988-1995), „Інфармацыйны бюлетэнь" (1987; 1990-1995), „Навіны Брацтва" (1992-1995) і „Ікас" (1994-1995). Уводнае ў кніжку слова напісаў Яраслаў Харкевіч — старшыня Брацтва праваслаўнай моладзі. У тэксце гэтым аўтар тлумачыць выдавецкі рух праваслаўнай моладзі як з'яву, наносячы неабходныя ўдакладненні і агульную ўпарадкаванасць у працэс. **(ам)**

# Трэба падумаць!

Многія мае калегі і знаёмыя пытаюцца неаднойчы, чаму я пішу ў „Ніву". „Яе ніхто не чытае", — кажуць. У сапраўднасці пэўна так і ёсць. Колькі б я не пісаў аб несумленных гандлярах і абдурванні кліентаў, колькі б не намагаўся кранаць праблему бяздомных сабак на вуліцах, тыя праблемы і так застаюцца нявырашанымі.

І кожная справа так маецца!

Памятаю, што пры камуне „Ніва" пасылала крытычныя публікацыі (у пракладзе, разумееца) таму, каго справа тычылася. Паступалі тады ў рэдакцыю адказы ад начальнікаў крытыкаваных прадпрыемстваў ці ўстаноў. Друкаваліся адказы. Чалавек бачыў нейкі вынік сваёй працы. А зараз, чаму гэтага няма? Адмяніліся законы?

Мала таго, што „Ніва" мае абмежаванае кола чытачоў і сімпатыкаў, дык тыя, што яе чытаюць, у кулак з нас смяюцца. А хто хацеў бы прачытаць, не зможа. Зразумела, ніколі не вучыўся беларускай мове.

На прыкладзе Чаромхі гэта канстатую.

Калі я перадаў „Ніву" трэнеру чаромхаўскай футбольнай каманды, каб там прачыталі маю публікацыю „Будні чаромхаўскага спорту", доўга хлопцы мучыліся, пакуль прачыталі па складах напісанае. А шчыра кажучы, пэўна добра і не зразумелі зместу артыкула.

У Гміннай управе толькі войт зможа ўсё прачытаць без нічыёй дапамогі. Аднак сумняваюся, ці ён рэгулярна чытае наш тыднёвік. Бо каб так было, многае ў нашай гміне змянілася б. Гмінным чыноўнікам „Ніва" — таксама цёмны лес. Таму пытаюся: што трэба зрабіць, каб наш тыднёвік стаў больш даступным шырэйшаму колу чытачоў і каб стаў зразумелым кожнаму, хто яго чытае? Асноўнае, каб праблемы намі кранутыя (журналістамі і карэспандэнтамі, разумеецца) вырашаліся. Каб такое збылося, усім нам трэба падумаць, а Вам, паважаны Галоўны Рэдактар, перад усім!

**Уладзімір Сідарук**

**Ад рэдактара:** Паважаны спадар Сідарук, на жаль, газеты патрэбны толькі тым, што ўмеюць чытаць. Сумнае, што ў Вашай гміне так мала ўжо асталося людзей, якія могуць карыстацца беларускім друкаваным словам. З другога боку, аднак, колькасць экземпляраў нашага тыднёвіка, якія разыходзяцца ў Чаромхаўскай гміне, сведчаць, што не толькі войт „зможа ўсё прачытаць без нічыёй дапамогі".

Але гэта не вырашае праблемы, якую Вы закранулі. Вядома, што праз некалькі гадоў цяжка будзе знайсці на Беласточчыне чалавека, які прынамсі будзе ведаць „буквы", а пра чытанне на беларускай мове можам забыцца. Усе мы — „вялікія дзеячы", „маральныя аўтарытэты", „славутыя...", настаўнікі, журналісты, гмінныя ўраднікі — ахвярна працавалі і працуем на свой лёс. Нічога — będziemy pisać i czytać o naszych ludziach w bardziej zrozumiałym języku.

# Радасць у Слабодцы

**Стогадовая бабка Зося Харкевіч любіць апранацца ў светленькае, каляровае. І твар у яе светлы, лагодны, як і яна сама, уся ў дабрыні і карысных учынках.**

Сёння, 28 верасня, свята ў Слабодцы, што ў Нараўчанскай гміне, над Семяноўскім вадасховішчам. Стагоддзе святкуецца вельмі рэдка. Чаго пажадаць юбіляру? З'ехалася сям'я, на жаль, не ўся, бо з Беларусі і Расіі змог прыехаць толькі ўнук, дачка Зіна памерла... Уходзяць і ўходзяць госці з кветкамі, бабуля, жвавая і радасная, вітае іх спачатку ў кухні. З пакоя далятаюць гукі старадаўняга танга, госці пераходзяць туды, а мы, значыць, бабулі-суседкі ды я, *рассуждаем* пра лёс і звычайныя справы.

— Раненька, яшчэ раса, Зося ў садок бяжыць, яблычкі збірае. Рэжа, сушыць. Пару тыдняў таму прастыла, узяло запаленне. Але падабрэла, дзякуй Богу, — перагаварваюцца суседкі, амаль усе Харкевічыхі — Марыся, Ліда, Лёдзя Бароўская...

— Нашто мелі б яны, тыя яблычкі, марнавацца? — азываецца бабуля зычным, мяккім голасам — добры мае слых, учула нашу ціхую размову, — Ой, якія вы ўсе вялікія парабіліся. А можа я маленька зрабілася, стапталася хіба...

Бабуля так паўвеку без мужа „тапталася", выхоўвала дзяцей, рабіла на гаспадарцы, аж яе тая работа і клопат прыгнулі да зямлі. Але і радасці колькі — вось дзеці, унукі, праўнукі, мілыя сваякі і суседзі, нават госці з гміны, кожны бачыць і чуе: родныя ўсе і ў родным захаваліся. І ў *радзіве* беларускія пажаданні...

Сядзім, абгаварваем, хто яшчэ жыве, хто проста ходзіць. Вось яшчэ адзін дзядуля, з Бэрначчыны, яму ўжо 103 гады. Але цяжка жывецца яму: „Умэр сын, умэр унучок, зяць умэр... Цяпэр уначы крычыт, гаворыт сам да сябэ..." Цяжка жыць, калі чалавек адзінокі астаўся...

— Мілая матуля, зрабілі вы нам такую радасць! Дзякуем за выхаванне, за ўсё ваша мацярынскае дабро, — з хваляваннем уздымае тост сын Аляксандр.

— Дзякуй табе, сыночку, за добрыя словы, — азываецца з-за ўквечанага багата застаўленага стала маленькая бабка Зося. Будзе яна цярпліва трымацца за ім да канца застолля, такая светлая ў сваёй смарагдавай кофце. Адказвае з гумарам на пажаданні, заахвочвае частавацца ўсім тым, што так смачна падрыхтавалі дачка Ніна, нявестка Стася і ўнучкі, Мірка, Аля і Аня. „А чый ты будзеш?" — часам дапытваецца ў гасцей, ужо стомленая гоманам і сумятнёй. На маё з'яўленне адказвае ўспамінам, як майго дзеда, Івана, свайго братанка, які, вядома, быў тады немаўляткам, люляла, і калыска адарвалася ад столі. Дванаццацігадовая нянечка ўпала на люльку, дзякуй Богу, не прыдушыла дзіцятка. „Ну, калі б не тое, то ці меў бы Іван сёння адзінаццаць праўнукаў?" — смяюся. Гэты ўспамін усё маёй дваюраднай прабабе прыходзіць на памяць. Можа, таму, што і Іван хацеў быць на гэтым свяце, ды прыхварэў. Найстарэйшыя былі б сёння абое на ўгодках, абое беленькія як галубкі, Іван і яго цёця Зося.

Колькі песняў ведаюць госці! Асабліва галоўны „солтыс" — Колік Мядзведзь. „Почему они всё по-русски поют? И такие песни, совсем мне незнакомые?" — дапытваецца пляменнік з Беларусі, мой дзядзька, хоць амаль аднагодак. „Пачакайце, будуць яшчэ і беларускія, і ўкраінскія. Усе яны нашы. А я да вас пытанне маю, чаму вы не толькі не спяваеце па-беларуску?.."

У Слабодцы і іншая „імпрэза" была ў гэту вераснёўскую суботу — абедня. Марыся Харкевіч, родам з Капітаншчыны, была на бяседзе і там. У час застолля ў бабы Зосі расказвае мне пра былое, а памятае шмат (ёй 82 гады), пасля ідзе ўправіцца з жывінай, бо каровы свят не ведаюць. Запрашае мяне на начлег, бо мае мне што расказаць. Вочы ліпнуць мне ад стомы, а баба Марыся вядзе аповед, пяе старадаўнія песні.

— Калісь, як пойдзеш на тыя *вэсіля*... Каравай рабілі, спявалі: *Каравай высокі, цыцаты, каравай усякі...* Або як жыта жалі. Зажынаем, дажынаем, усё спяваем. *Ой, выжалі жыто, выгналі зайца, а ў нашаго пана вэлікі яйца...* І на адведках, на хрысцінах — усё з песняй даўнейшай. Цяпер то песню рэдка пачуеш, бо і свят такіх зусім мала. І да плачу, сіроцкія. Была ў нас сіротка, выйдзе рана па зелле, і пяе, і плача, а нам аж сэрца заходзіцца: *Там у полі елінка, мае мамы магілка. „Устань, мамо, ні лежы, мне работу пакажы." — „Ой, ні ўстану, ні магу, белых ручок ні злажу. Ідзі, дзіця, дадаму, гадзі бацьку чужаму, каб нідзе вуон ні хадзіў, цібэ, дзіця, ні судзіў...* Мала хто тыя песні ўжо ўспамінае, мала хто і чуе. Амаль усе — *рэнцісты.* Хаты ледзь не ўсе пустыя. Дзяцей павыпраўлялі то ў Беласток, то ў Гайнаўку, то ў Міхалова, то ў Бельск... Хто паралізаваны, хто ў шпіталі... Будзе з чатырнаццаць. Дарога за нашай вёскай канчаецца, далей — Мацейкава Гара, рэчка...

Добра што хоць Сухадолы трымаюцца. Пабралі зямлю, што людзі паздавалі, маюць 10 дойных кароў, маладняк, усе машыны. Утраіх абрабляюць гаспадарку — маці, сын і Геня. Геня кончыла малакаперапрацоўчы тэхнікум. Яе сёстры плакалі, што ў вёску ідзе. А Геня і на трактары паедзе, і на снапавязалцы, і ўсё ўмее зрабіць. Трое дзяцей маюць, адзін пайшоў вучыцца ў Міхалова, другі ў Беласток, трэці ў пачатковай школе. Вось, бачыце, адна сям'я на вёску. А ў Мацейкавай Гары падобна. Нядаўна ехала я на Святую Гару, нагледзелася па дарозе на нашы апусцелыя вёскі. Нават дамы з саламянымі стрэхамі бачыла, але хіба іх трымаюць напаказ. І да нас заходзяць турысты, на камень і крыжы дзівяцца. Ціха тут у нас, але вось Новая Лука будуецца — і лучане пасяліліся, і другая вуліца ўжо ёсць. Якія там дамы паставілі! Файнае месца каб паказаць, аколіца прыгожая. Фільм тутака круцілі, хадзілі па *лонках*, паказвалі, як людзі працуюць, буслоў здымалі. Нарва тут загінаецца, за Сушчай Нараўка ў Нарву ўпадае, за хваінкаю — Польска, ведаеце ўсе яго гісторыю. Нажыліся тут людзі.

У першую вайну ўся Слабодка згарэла, асталася адна хата, прадзеда майго мужа. У другую вайну немец павывозіў — то ў Луку, то ў Беласток. Усё было развалена. Ано то партызаны хадзілі, то немцы. Ад нашае хаты толькі шчыт астаўся. Начавалі пад тым шчытом, у тую ноч *якіясь* ехалі, свіней забіралі, пайшлі ў іншыя вёскі. І ў вайну невядома было, хто прыйшоў, і пасля вайны. Ці партызан, ці не партызан, ці немец пераапрануты. За абы-што чалавек мог дастаць кулю ў лоб. А народ у нас тут шчыры, гасцінны... — уздыхае Марыя Харкевіч і задумоўваецца, гледзячы ў столь сваё вялікае хаты. Засынае спакойным сном працавітага чалавека, які за сваё жыццё нарабіўся і надзівіўся.



**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Радзіма — Родзіна

**Частка LIX**

Сёння прывяду тыя фрагменты выказванняў эміграцыйнага выдатнага дзеяча Антона Адамовіча, якія адносяцца да амерыканскага перыяду жыцця беларускіх эмігрантаў і да разумення імі паняцця Радзімы:

„Найбольшая хваля беларускай эміграцыі ў Амэрыку звязана з пяцідзесятымі гадамі. Калі толькі амэрыканцы даведаліся, які лёс згатавалі саветы тым беларусам, якія сілаю былі пасля вайны накіраваны ў Савецкі Саюз, дык прыпынілі сілавую высылку эмігрантаў у СССР. Амэрыканцы прыадкрылі свае межы і таму досыць вялікая колькасць беларусаў перасялілася за акіян. Зрэшты, не толькі ў Амэрыку, бо многія паехалі ў Канаду, Аўстралію, Новую Зэляндыю і Бог ведае куды.

Жыццё беларусаў у Амэрыцы было пачаткова вельмі цяжкім. Не ведалі яны ангельскай мовы, не мелі адпаведных прафэсый, не мелі кватэраў. На самым пачатку жылі вельмі прымітыўна. Здаралася, што елі з адной міскі, пастаўленай у цэнтры стала. Многа спажывалі найтаннейшых прадуктаў: хлеба і саланіны. Аднак памалу разжыліся. Пачалі разумець, а пасля і размаўляць па-ангельску. Цяпер ужо практычна большасць жыве ў асабняках, маюць машыны, дачы і гэтак далей. Аднак дзесяткі, дзесяткі гадоў жылі сціпла, многа і цяжка працавалі на найгоршых работах. Ніхто нам нічога не даў дарам. Усё трэба было набываць уласнымі рукамі ў цяжкім штодзённым змаганні. Што нас галоўным чынам адрознівае ад савецкіх беларусаў? Мабыць тое, што не п'ем гарэлкі. Калі і выпіваем, дык вельмі мала. Значыць, беларуская эміграцыя гэта цвярозыя людзі.

Можа вам, Алесь, паказацца, што наш уласны побыт засланіў нам вочы і сэрца. Так аднак на шчасце не сталася. Вы пачытайце такія нашы эміграцыйныя часопісы як: „Бацькаўшчына", „Шыпшына", „Сакавік", „Конадні", „Беларус", „Запісы", а пабачыце, што заўсёды прыярытэтнай з'явай была для нас Беларусь і беларускасць, нацыянальная мова і нацыянальная свядомасць. У названых мною часопісах найважнейшым быў для нас лёс Радзімы. Мы ніколі не зачыняліся ў эміграцыйнай шкарлупіне. Заўсёды падкрэслівалі, што з'яўляемся арганічнай часткай Бацькаўшчыны і што ніякая адлегласць не звальняе нас з абавязку любіць і кахаць Айчыну. Жывучы з кожным годам лепш, ніколі не перасталі думаць аб убогім жыцці беларусаў на Радзіме. А што датычыцца нас саміх, дык на першым месцы мы ставілі заданні, каб не захліснуцца амэрыканскім дабрабытам і не забыць пра Радзіму. Зразумела, што ў кожнай грамадзе ёсць вырадкі. Сказанае датычыць і беларускай эміграцыі. Некаторыя беларусы выракліся беларускасці, пакінулі мову, парвалі адносіны з беларускай грамадой. Здараліся нават такія выпадкі, што калі мы ім пасылалі беларускія газэты, дык яны пагражалі нам судом. Ну, але бачыце, гэта смецце, якое выступае нават у найбольш ачышчаным зерні. Галоўнае тое, што агрмадная большасць беларускіх эмігрантаў асталася вернай нацыянальным ідэалам. Апынуўшыся тут, за акіянам, мы зразумелі, што папярэднія хвалі беларускіх эмігрантаў з XIX і пачатку XX стагоддзяў прапалі таму, што далучыліся да рускай Царквы або польскага Касцёла, ну і папы ды ксяндзы адпаведна папрацавалі над іхнімі душамі. Папрацавалі так, што выбілі з іх душаў усю беларускасць і зрабілі з іх „чыстакроўных" рускіх або палякаў. Мы разумелі, што калі не збудуем беларускай Царквы і беларускага Касцёла, дык поўнасцю згінем. Ну і зрабілі, што маглі. Праўда, сёння ў нас праваслаўная Царква разбіта на дзве арыентацыі і на суды паміж гэтымі арыентацыямі беларусы ўжо патрацілі сотні тысяч даляраў, то ўсё ж такі як адна так і другая арыентацыя трымаюцца моцна беларускасці. Моцна беларускія ў нас таксама баптысты. Бацька Якуб і сын Юрка Рэпэцкія — гэта баптысты, якія высока над сабой і сваёй рэлігіяй трымаюць нацыянальны беларускі штандар. Гэтае самае трэба сказаць пра вуніятаў. Біскуп Сіповіч і святары Тарасэвіч і Надсан — гэта прыклад верных сыноў Бацькаўшчыны, якія лічаць, што славіць Бога чалавек павінен толькі на той мове, якую атрымаў ад Бога. Вы ж, Алесь, мелі кантакт і з Сіповічам, і з Надсанам, і з Тарасэвічам, і ведаеце, што гэтыя людзі ніколі не здрадзілі Беларусі. На жаль, Царква і Касцёл на Радзіме ўсё яшчэ застаюцца ў рускай і польскай няволі".

**Алесь Барскі**

## Позірк у мінулае

**20 кастрычніка**

1827 г. — перамога брытанскага, расейскага і французскага флотаў над туркамі пад Наварына вырашыла ход вайны за незалежнасць Грэцыі.

1944 г. — савецкія войскі і югаслаўскія партызаны ўвайшлі ў Бялград.

**21 кастрычніка**

1520 г. — партугальскі мараплавец Фернан Магелан адкрыў праліў між Атлантыкай і Ціхім акіянам на паўднёвым канцы амерыканскага кантынента.

1833 г. — нар. Альфрэд Нобель, шведскі хімік, адкрывальнік дынаміту.

1950 г. — увайшлі ў сілу жэнеўскія пагадненні аб абыходзе з раненымі салдатамі, ваеннапалоннымі, пацярпеўшымі караблекрушэнне і цывільнымі асобамі падчас вайны.

**22 кастрычніка**

1811 г. — нар. Ферэнц Ліст, венгерскі кампазітар.

1870 г. — нар. Іван Бунін, расейскі пісьменнік.

1962 г. — патрабаванне прэзідэнтам ЗША Джонам Кенэдзі вываду савецкіх ракет з Кубы і дэмантажу там пускавых установак; пачатак г.зв. кубінскага крызісу.

**23 кастрычніка**

1641 г. — каталіцкія ірландцы вымардавалі тысячы англійскіх і шатландскіх каланістаў.

1926 г. — пленум ЦК ВКП(б) выдаліў са свайго складу Троцкага, Зіноўева і Каменева.

1956 г. — у Венгрыі ўспыхла паўстанне супраць заведзенага там пасляваеннага парадку, падаўленае пасля некалькіх дзён савецкімі інтэрвенцыйнымі войскамі.

1961 г. — кітайскі прэм'ер-міністр Чжоу Энь-лай пакінуў ХХІІ з'езд КПСС, што стала пачаткам разрыву між КНР і СССР.

**24 кастрычніка**

1795 г. — трэці раздзел Польшчы Аўстрыяй, Прусіяй і Расеяй.

1882 г. — нар. Эмерых Кальман, венгерскі кампазітар.

1901 г. — заснавана фірма *Kodak*, мэтай якой стала прадукцыя фотаапаратуры.

1980 г. — рэгістрацыя прафсаюза „Салідарнасць”.

**25 кастрычніка**

1838 г. — нар. Жорж Бізэ, французскі кампазітар.

1881 г. — нар. Пабла Пікасо, іспанска-французскі мастак.

1929 г. — „чорная пятніца” на нью-йоркскай біржы вызвала сусветны эканамічны крызіс.

1936 г. — заснаванне восі Рым–Берлін.

1950 г. — кітайскія войскі ўварваліся ў Тыбет.

1971 г. — КНР прынята ў ААН на месца Тайваня.

1984 г. — пасля дзесяцігадовай будовы адкрыта найбольшая ў свеце электрастанцыя Ітаіпу на граніцы Парагвая і Бразіліі.

**26 кастрычніка**

1685 г. — нар. Даменіка Скарлаці, італьянскі кампазітар.

1905 г. — расейскія рабочыя заснавалі першы савет.

1965 г. — каралева Вялікабрытаніі Лізавета II узнагародзіла ордэнам Брытанскай імперыі гурт „Бітлз”. З гэтай прычыны многія лаўрэаты гэтай адзнакі вярнулі яе назад.

1972 г. — памёр Ігар Сікорскі, расейска-амерыканскі авіяканструктар.

1984 г. — у ЗША ўпершыню перашчэплена сэрца павіяна немаўляці; дзіця памерла пасля трох тыдняў. **(Ш)**

## *Парнасік*

### Слёзы

Гэта не дождж  
падае з неба  
на нашу грэшную,  
прыгожую Зямлю.

Гэта слёзы людзей,  
пакрыўджаных нявінна.  
Яны ўвайшлі ў зямлю  
і парай узышлі на неба.

І сабраліся ў вялікую  
паднебную, сінюю раку,  
і зноў вяртаюцца  
на Зямлю прагную вады.

**Аўрора**



### Ой, хлопцы!

Ой, вы, мае хлопцы,  
Каб на вас халера,  
Ці цяпер не будзе  
Мне ўжо кавалера?  
Асталась я ў вёсцы,  
Каб кароў даіці,  
Мне цяпер прыйдзецца  
Старой дзеўкай быці.  
Быці старой дзеўкай,  
Самой гараваці,  
Калі паўміраюць  
Мае бацька й маці.  
Брат пайшоў у горад,  
Там п'е і гуляе,  
А пра гаспадарку  
Нат не ўспамінае.  
Часам брат прыедзе,  
Каб наведаць вёску,  
Захапіць у торбу  
Сала ды каўбаску.  
А як прыйдзе лета  
Пра нас забывае,  
На дачы над морам  
Ён адпачывае.  
Адно ведаць трэба:  
Як станем так рабіць,  
Тады будзе цяжка  
У дзяржаве жыць.

**Мікалай Лук'янюк**

### Амерыка

Многія рвуцца ў Амерыку,  
Ім здаецца, што там рай і лірыка.  
Ды многія там расчараваліся,  
Калі з родным развіталіся.  
Хлебам сталі ім какаін,  
Наркотыкі, гарэлка, марфін.  
Пакаціліся на дно галечы,  
Ажно баляць ім ужо плечы.  
Там трэба рабіць, як асёл  
Нават таму, што тут быў важны,  
як пасол.  
Там гладкі язык не ратуе —  
Эгаізм, самалюбства пануе.  
Там поўным ходам ідзе  
Капіталізм як нідзе.  
А тыя, што „прыпчапіліся”,  
Цёмным радном засланіліся.  
Такі „амерыканец” стаў падазроны,  
Піша лісты да сваёй жонкі Матроны  
Што, маўляў, у Польшчы адны зладзеі  
Ды адбываюцца дзіўныя „падзеі”.  
Будзь „начыку”,  
Стоячы на баку.  
„Амерыканцу” здаецца, што яму  
зайздросцяць  
У Польшчы, дзе многія посцяць.  
Думае, што ўсе яго сябры  
Чакаюць на яго дары.  
Не ведае, бедны, што чалавек умелы,  
Справядлівы, адказны, спелы  
Жыве не толькі там,  
Але і ў нас — як пан!  
Там эмігрант — чалавек другога  
гатунку  
І няма яму паратунку.  
У нас абсталявацца  
І жыццём радавацца —  
Гэта подзвіг і штука.  
І не мука!  
Бо славянскі народ найлепшы  
І найслаўнейшы;  
Перад носам дзвярэй не зачыніць,  
А дабро прычыніць.  
Не зайдрошчу таму, хто выехаў  
у Амерыку,  
Бо змяніў свае норавы і псіхіку:  
Стаў з яго эгаіст  
Як згнілы ліст.

**Мікалай Панфілюк**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Мне прысніўся страшны сон. Фактычна тады цэлую ноч мне сніліся нейкія кашмары. Ехала я кудысьці на нейкай машыне, нехта мяне праследаваў. І раптам я апынулася ў нейкай кватэры. Быццам гэта бацькоўская кватэра, але я яе зусім не пазнаю. Няўтульная і ўсё шэрага колеру. Каля сцен стаяць два вялікія стэлажы для кніжак. Адзін — прыгожы, рэзблены, быццам нейкі антык, а другі — сучасны, немаляваны, з сасновага дрэва. На гэтых стэлажах нічога няма. Ні кніжак, ні посуду ніякага.

У хаце робіцца ўсё больш няўтульна, неяк пуста. Раптам я бачу, што ад сцяны адваліўся сасновы стэлаж і разляцеўся ў дробны мак на другой сцяне. Мяне не крануў. Другі, старадаўні, застаўся стаяць на сваім месцы. І ўжо я не бачу стэлажоў, а бачу пустыя сцены, а на адной сцяне павешаны палаткі такія, якія бываюць на запечку, а на іх ляжыць мая мачыха. Цела яе шэрае, з сінімі кровападцёкамі. Яна быццам мёртвая.

Мяне пакідаюць адну ў гэтай хаце, каб я пільнавала мачыху. Я вельмі баюся застацца з нябожчыцай адна нанач. Але раптам бачу, што яна зусім не памерла, бо паварушылася, хаця яе выгляд і не палепшаў. Я крыху супакоілася, што яна яшчэ жывая, але і так вядома было, што яна пры смерці. Вельмі баюся, Астроне!

**Дар'я**

Дар'я! Сон твой надта нядобры. Нешта можа разваліцца ў тваім жыцці, як тая паліца, якая рынула ў бацькоўскай хаце, хаця яна і не зачапіла цябе. Прынамсі праблемы будуць. Нейкі фальш і няшчырыя людзі будуць спрыяць гэтаму. Сведчыць аб гэтым тое, што прыснілася табе мачыха. А што мачыха была паміраючая, ажываючая і пасінячаная, дык можна быць упэўненым, што твая сітуацыя акажацца надта небяспечнай.

**Астрон**

## Крыжаванка

**Гарызантальна:** 2. сок хваёвых дрэваў, 4. напрамак у нямецкім мастацтве ў 30—40 гг. XIX ст., 6. „рухавік” невялікай лодкі, 7. горад між Гданьскам і Гдыняй, 9. чараўнік, 11. горад, у якім маюць сядзібу ўлады краіны, 12. кантынент, 13. шырокая і неглыбокая круглая пасудзіна, 15. паўднёваамерыканскі страус, 17. вялікая і небяспечная марская рыба, 18. радыятар цяпла, 19. паўвостраў між Азіяй і Афрыкай.




**Вертыкальна:** 1. небяспека, 2. сядзенне для конніка, 3. напрамак, у якім перамяшчаецца Сонечная сістэма, 4. травяністая расліна з чырвануватымі кветкамі і з плодам у відзе буславай галавы, 5. сукупнасць твораў, якія выконваюцца ў тэатры, 6. бог ветру і буры ў старадаўніх германцаў, 8. сабака з кароткімі нагамі і доўгім тулавам, 9. канец шахматнай гульні, 10. лёгкае фізічнае цела, 14. супрацiўленне, 16. частка Вялікабрытаніі з цэнтрам у Кардыфе, 17. міфічны старагрэчаскі спявак. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 35 н-ра:**

**Гарызантальна:** Акад, этнас, ураган, юнак, транс, арэнда, інстытут, Морзе, кіраўнік, гаспадар, Ітака, нагавіцы, какаду, Асвея, сода, сірата, шчака, кліч.

**Вертыкальна:** стырно, карніз, кінетыка, дукат, кадэт, банда, снегапад, рукавіца, мега, рыса, Анна, ікра, Іравадзі, тысяча, кветка, тапір, Нарач, гусак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Ніва

**„Niwa”**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

### Грошы за галёшы

*Галёшы Саванаролы,*
*Анучы Шэкспіра,*
*Вуздэчка каня Аляксандра Македонскага.*

***Ян Чыквін***

Куплю я анучы Шэкспіра
І Саванаролы галёшы:
Мяне не пакіне ліра —
На ёй зараблю я грошы.
Вуздэчку ад каня Македонскага
Куплю, і паеду па вершы я,
Паеду да мора Японскага,
Ці на Нарач бліжэйшую.
Абкручу анучамі ногі
І смела ступлю ў галёшы,
Каб стома сышла з дарогі,
Каб стрэўся Пегас харошы.
Вуздэчкай злаўлю Пегаса,
Накіну яму хамут...
Пасля натхнення адразу
Прысніцца мне родны кут:
Прысняцца бацькавы боты,
Галёшы, анучы і плот.
Нібыта мяне з работы
Вітае ля весніцаў кот...
Анучы, вядома, Шэкспіра,
І Саванаролы галёшы.
Навошта тады мне ліра,
Калі ў мяне грошы?!

**Сяргей Чыгрын**



*— Хто гэта вам так сэрца разбіў?*
Мал. В. КЛЮЧНІКА

# Ніўка




*Мал. Л. ГАДУНА*

## „Павядзэнні” Рэдактара П.

Мы працягваем нашу серыю *павядзэнняў* Рэдактара П. У гэтым адрэзку прапануем выраз на кулінарную тэму. Можаце яго выкарыстаць, рэкамендуючы знаёмым навагодні баль.

Другі выраз можа быць выкарыстаны ў афіцыйнай карэспандэнцыі Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

**арганізатар гарантуе гарачыя пасуды** (*маюцца на ўвазе:* горячие блюда) — organizator zapewnia gorące dania;

**прылады да абрубкі дрэва** — narzędzia do obróbki drewna.

## Скажам праўду

Жанчына аб сучасным мужчыну:

„Пакладзеш яго на сабе — ён спіць. Пад сябе — душыцца. На баку — глядзіць у тэлевізар. А калі яго паставіць — адразу ўцякае!”

* * *

— Ці савецкія мужчыны, выязджаючы ў камандзіроўку, верныя сваім жонкам?

— У прынцыпе — так. Асабліва нашы геройскія касманаўты.

* * *

— Мая жонка вельмі любіць звяроў...

— А мая — вегетарыянка.

* * *

— Калі я выйду за цябе замуж, — кажа нарачонаму сакратарка ў вялікай фірме, — страчу добрую працу.

— Будзем гэта трымаць у сакрэце.

— А калі народзіцца дзіця?

— Ну, яму скажам праўду.

* * *

А трэцяй гадзіне ночы звоніць лекару жанчына.

— Пан доктар, ад пяці гадзін не магу заснуць! Усё варочаюся з боку на бок...

— А што ў тым дзіўнага? Каб заснуць, трэба ляжаць спакойна! **(лук)**

# „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Чуў, што выбіраешся ў пасляшлюбнае падарожжа.

— Еду ў Італію.

— Без жонкі?

— Яна ўжо там была са сваім першым мужам.

* * *

— Чаму разводзішся?

— Каб ажаніцца.

* * *

— Гэта праўда, што вы хочаце развесціся з жонкай? — пытае суддзя мужа.

— Так!

— І вы таксама? — пытае жонку.

— Так!

— А вы ж гаварылі, што ніколі з сабою не згаджаецеся!

* * *

— Здаецца мне, што муж перастаў мяне кахаць...

— Чаму так думаеш?

— Бо ўжо два месяцы не прыходзіць дадому.

* * *

— Што ў цябе, калега, новага?

— Жонка мне здраджвае...

— Я пытаю, што новага!

* * *

Сямейная спрэчка:

— Такое другое жонкі, як я — не знойдзеш!

— Таму і выршыў развесціся з табою.

* * *

Папсавалася брама між небам і пеклам. Святы Пётр кліча Люцыпара і загадвае яму адрамантаваць яе, бо грэшнікі вылазяць з пекла і швэндаюцца па небе. Люцыпар аднекваецца.

— Падам цябе тады ў суд! — пагражае яму Святы Пётр.

— Выдатна! — ускліквае Люцыпар. — У мяне сядзяць найлепшыя адвакаты і суддзі!

* * *

У лесе паляўнічага сустракае ляснік:

— Чаго вы плачаце як дзіця?

— Бо згубіў свайго сабаку.

— Не хваліцеся; ён напэўна і сам дадому вернецца.

— Ён так, але я — не...

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Найгорш, калі нехта табе ўсадзіць нож у плечы. Трынаццаць гадоў я жыла ў несвядомасці, не ведаючы, што вычварае мой муж. Мне здавалася, што жывем мы, як галубкі, бо я за ім свету не бачыла і жыцця без яго не ўяўляла. І раптам... прывёў у наш дом іншую — амаль дзяўчынку — і сказаў, што магу застацца ў хаце і... фактычна служыць ім: варыць, праць, прыбіраць.

Як я магла ў свае трыццаць два гады перанесці такую знявагу?! Не гаворачы ўжо пра тое, што сваю маладосць я падпарадкавала яму, яго патрэбам, яго поглядам на жыццё. Нават дзяцей мы не мелі, бо гэта магло б яму перашкодзіць у яго кар'еры мастака. А ён мяне папракнуў, што я сваё жыццё змарнавала на гатаванне і прыбіранне. Шкада, што забыўся дадаць пра тое, што я зарабляла на жыццё (ужо будучы замужам, я здабыла, вучачыся па начах, вышэйшую адукацыю).

Крыўда душыла мяне тым больш, што пры нагодзе я даведалася ад сяброваk пра яго ранейшыя раманы. Увесь час ён здраджваў мне! Божа, а я яму так даверылася... Ну, і не вытрывала я, адкруціла газ.

Нешта майго мужа цюкнула, каб раней вярнуцца дахаты са сваёй лялькай. Я ўжо ляжала на падлозе. Калі я акрыяла ў бальніцы, пры мне быў толькі мой халацік і тапачкі, зубная шчотка, мыла ды ручнік. І так ужо засталося, бо з гэтым забрала мяне з бальніцы мая старэйшая сястра. Калі мы пад'ехалі да нашай хаты, замкі былі зменены і ўвайсці туды было немагчыма. Пакінула я там усе свае рэчы і, калі мой былы муж іх не выкінуў, дык пэўна, ляжаць яны там да сёння. Блузкі, паліто, футра, панчохі і райтузы. Больш я ў гэту хату не пайшла. Сястра прытуліла мяне ў сябе, хаця ў яе самой была сям'я і патрэбы. А неўзабаве яны вырашылі, што мне патрэбны адпачынак. Міну ўжо год ад часу майго нешчаслівага выпадку і я крыху прыйшла ў сябе. Яны завезлі мяне ў горы, лічачы, што горнае паветра верне мне сілы і ахвоту да жыцця.

Божа, якая ж я там была самотная! Усе чорныя думкі, з якімі я пасяхова змагалася, будучы ў сястрынай хаце, нахлынулі на мяне ізноў. Там жа было сямейнае цяпло, дзеці сястры, з якімі я любіла забаўляцца, любімая праца. А тут! — Тут, сярод недасяжных гор, я адчула сябе яшчэ больш слабой і нешчаслівай.

Што было рабіць? Я хадзіла ў горы на доўгія вандроўкі, не баючыся ўжо нікога і нічога. Жыццё не прадстаўляла для мяне ніякай вартасці. Аднойчы неспадзявана пачула за сабой голас: „І не баіцеся хадзіць адна ў горах?!” Я аглянулася. За мной ішоў малады чалавек з суседняга пансіяната. Кажу, што з ім мне няма чаго баяцца. Прыемны такі, я яго заўважыла раней.

І мы пачалі хадзіць у горы разам. Усё ж было весялей. Было ў нас шмат супольных тэм, хаця быў ён на пяць гадоў маладзейшы за мяне. Быў, як і я, разведзены, хаця быў у іх сын. Жонка — проста — знайшла іншага, але апеку над сынам суд прысудзіў не яму, а ёй. Вельмі перажываў сваю сітуацыю. Як і я, не разумеў, што сталася. Ён жа, кажа, быў ёй адданы, як сабака. Чаму пакахала іншага?

Паколькі мы жылі ў розных гарадах, дык пасля пабыўкі ў гарах перапісваліся, часамі размаўлялі па тэлефоне. Было мне вельмі міла, калі я чула яго голас ці атрымлівала ад яго ліст. Некалькі разоў сустрэліся — то ў яго, то ў мяне. А цяпер, уяві сабе, ён запрапанаваў мне ўзяць шлюб. Тады зможам быць увесь час разам. А я і сама не ведаю, ці загоіць гэты шлюб маю рану. Ён, праўда, вельмі ўважлівы, сардэчны ў адносінах да мяне, але я баюся, што тое, што здарылася, можа паўтарыцца. Мне цяпер трыццаць пяць гадоў, а яму трыццаць.

**Тацяна**

Тацяна! Кожны шлюб гэта рызыка. Купляеш машыну ці тэлевізар — і таксама невядома, як удасца. Усяго ж не прадбачыш. Думаю, аднак, што спрабаваць варта. Вашы лёсы падобныя, і менавіта таму будзе між вамі больш узаемаразумення.

А можа паявяцца ў вас дзеці, і жыццё тваё азарыцца святлом ласкі і надзеі.

Памятай, час лечыць нават найгоршыя раны. **Сэрцайка**